№ 45 (738) 7 снежня 2011

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




## Расія ўстае з каленяў

«Адзіную Расію» пракацілі на выбарах, а ў Маскве прайшоў масавы мітынг супраць падтасовак. Старонка 4.

# Маці Кавалёва жыла ў сям'і пацярпелых ад тэракта

**Грамадства раскалолася** ў стаўленні да прысуду Канавалаву і Кавалёву. **Старонка 3.**

Дык як выйшлі на КіК праз суткі пасля тэракта?

Мурашка: Шэсць гадоў я збіраў усе чэкі, каб мець алібі.

Пазняк за смяротнае пакаранне, але выпадак КіК – асаблівы.

Жанчына галадае, мужчына просіць расстраляць яго.

Як расстрэльвалі невінаватых.

За ці супраць смяротнага пакарання?

**Старонкі 3, 12.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тэндэнцыі

## Дарафееву пракінулі міма «Еўрабачання»

Вызначаныя 15 удзельнікаў адбору **«Еўрафэст»**.

Гэта нацыянальны адборачны тур да конкурсу песні «Еўрабачанне». Курыруе праект народны артыст Аляксандр Ціхановіч.

БТ атрымала 115 заявак ад выканаўцаў, з якіх журы адабрала 15. Імі сталі групы Thriller, Litesound, Nuteki, The Champions, «Эківокі», Гюнеш, Настасся Віннікава, Юзары, Ганна Благава, Герман, дуэт Аляксандры Гайдук і Наталлі Балдзінай, Ян Жэнчак і група Outerplan, Алёна Ланская, Аўра і Вікторыя Алешка.

Цікава, што за рысай адбору засталіся вядомыя выканаўцы, як «Цягні-штурхай», Іскуі Абалян, Георгій Калдун. Не прадставіць краіну на «Еўрабачанні» ў Азербайджане і Ірына Дарафеева, якую яшчэ нядаўна называлі «тварам краіны» і партрэты якой былі на вуліцах усіх гарадоў краіны.

Дзяржаўныя тэлеканалы традыцыйна шмат увагі надаюць «Еўрабачанню». Поспехі на музычным конкурсе ставяцца ў адзін шэраг з перамогамі спартоўцаў і бітвай за ўраджай. Праўда, пакуль самым гучным выступам было шостае месца Дзмітрыя Калдуна.

За няўдалыя выступы БТ і Ціхановіча нават пазбаўлялі права праводзіць адбор. Але ад перамены месцаў вынік не змяніўся. АНТ даверу не апраўдала, і займацца конкурсам зноў даручылі першаму каналу.

**Зміцер Панкавец**

Грамадства

### Прадпрымальнік судзіцца са справамі прэзідэнта

за арандаваныя памяшканні. **Старонка 6.**



Спорт

### Ці пераганіць Дарка Лену?

Беларуска і немка змагаюцца за лідарства ў жаночым біятлоне. **Старонка 9.**



Крымінал

### Намеснік гендырэктара Дома друку забіў жонку

А потым застрэліўся. **Старонка 10.**



Культура

### Матафонаў сышоў з БТ на свабоду

Папулярны вядучы быў вымушаны звольніцца з тэлебачання. **Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Шчоткіна: Трэба людзей заахвочваць працаваць у Беларусі

Нашто ў Расію ехаць, калі можна тут **атрымліваць 6 мільёнаў**.

«Вядома, сёння трэба зацікавіць чалавека працаваць тут, але гэта павінна быць комплексна», — адзначыла міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна.

«Чалавек павінен зарабляць сваю зарплату, а не атрымліваць «палучку», — цытуе Шчоткіну агенцтва БелТА. Па яе словах, заробкі ў некаторых сферах сягаюць шасці мільёнаў рублёў.

Гаворачы аб магчымым павышэнні тарыфнай стаўкі першага разраду, яна паведаміла, што гэта закладзена ў праграмных дакументах на 2012 год, але памер павышэння пакуль не агучыла.

Затое яна расказала, што Мінфін разглядае пытанне пра павелічэнне базавай велічыні. Да яе прывязаны арэндная плата і штрафы.

**Сяргей Гезгала**


PHOTO.BYMEDIA.NET

# Сацыёлагі выявілі, што «Еўраопт» самы танны

У Мінску розніца цэнаў на прадукты ў розных крамах можа дасягаць 70%!

Пра гэта заявіў дырэктар Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Ігар Катляроў.

Сацыёлагі вывучалі цэны ў сеткавых крамах Мінска ў лістападзе. Пад маніторынг трапілі «Алмі», «Бігз», «Вестэр», «Гіпа», «Еўраопт», «Прастор», «Рублёўскі», «Суседзі». «Цэнавыя замеры паказалі, што на тавары з харчовай групы цэны ў сетцы крамаў «Еўраопт» значна ніжэйшыя, чым у іншых абследаваных крамах», — заявіў Ігар Катляроў.

Ён удакладніў, што выдаткі сям'і з чатырох чалавек на адзін і той самы прадуктовы кошык (за месяц) у «Еўраопце» склалі 2 мільёны 462 тысячы, у некаторых іншых сетках — 3 мільёны 108 тысяч. «Такім чынам, эканомія роўная Br 646 570, гэта значыць сярэдні кошт прадуктовага спажывецкага кошыка ў сетцы «Еўраопт» на 26,3% меншы, чым у іншых сеткавых крамах Мінска», — падкрэсліў Ігар Катляроў.

Найтаннейшымі ў «Еўраопце» аказаліся і прамтавары: зубныя шчоткі і пасты, туалетная папера, пракладкі і падгузнікі.

Праўда, падчас аналізу сацыёлагі спецыяльна бралі базавую цану тавараў. Гэта значыць, яны не ўлічвалі цаны тавараў, на якія былі зніжкі, а таксама дысконтных картак.

**Паводле БелТА**




# Нацбалы атакавалі будынак БТ

Яны выплюхнулі на ганку **вядро локшыны** і раскідалі ўлёткі.

Ва ўлётках было напісана, што «найпершая задача журналіста — гарантаваць людзям атрыманне праўдзівай і дакладнай інфармацыі з дапамогай сумленнага адлюстравання аб'ектыўнай рэальнасці».

«На жаль, журналістам і супрацоўнікам Белтэлерадыёкампаніі дадзеныя прынцыпы ніколі не былі знаёмыя. Але хопіць! Ешце самі сваю локшыну, мы хочам атрымліваць праўдзівую і сумленную інфармацыю пра аб'ектыўную рэальнасць!» — гаворыцца ў звароце да БТ.

Праз некалькі дзён міліцыя затрымала лідараў нацбалаў Яўгена Контуша і Уладзіслава Лобава. Першага чакаў адміністрацыйны суд.

Нацыянал-бальшавікі апошнім часам абвесцілі, што выступаюць супраць дзейнай улады. Далучыліся да акцый апазіцыі, як на «Народным сходзе».

**ЗП**

### Анонс

**Аўстрыя: ад імперыі да нацыі**




Што набыла і што страціла дзяржава, якая прайшла шлях ад вялізнай імперыі да дэмакратычнай рэспублікі? На гэтыя пытанні шукайце адказу ў новым, «аўстрыйскім» нумары ARCHE.

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Не забудзьцеся падпісацца!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 5 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам даставіць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazu дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Пачалася падпіска праз «Белпошту»** на 1-е паўгоддзе 2012 года:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Сціслa

**«Майго сына выкрала міліцыя!»**

У Мінску ў раёне Трактарнага завода «людзі ў цывільным» правялі аблаву на падлеткаў. Прычына — нібыта прызначаная бойка мясцовых з кадэцкім корпусам. А калі бацькі ў РУУСе пачалі пратэставаць, быў выкліканы АМАП.

Больш пра выпадак — чытай на сайце nn.by.

**За мяжу будуць выпускаць толькі выдатнікаў**

Студэнты з балам, ніжэйшым за 8, не змогуць паехаць на стажыроўку. Такую пастанову прыняў Саўмін.

**Рубель умацоўваўся**

Курс даляра апусціўся да 8 560 рублёў. Гэта, аднак, у межах тых 8500, на якія наша валюта ўпала ў верасні.

**П'яны дэбош**

У Мінску п'яная студэнтка знішчыла шлагбаўм, які перакрываў ёй дарогу ў двор. Крымінальную справу на яе за хуліганства завёў Партызанскі РУУС Мінска.

**СГ**

### Трохі лірыкі

Усевалад Сцебурака

**А некалі будзе так...**

Калі завітае Яна —
паненка з касой-літоўкай,
я, выпіўшы келіх да дна,
пазыкі раздам гатоўкай.

Суседу пакіну ключы —
мауляў, «даглядай кватэру,
мяне запытаюць — маўчы,
прыеду пасля, праверу»...

Жагнуўшыся на абразы,
ашчадна закрыю фортку.
Ля крамы падам драбязы,
прылашчу на лаве котку.

Зірну ў астатні раз
на тое, з чым час расстацца...
— «Ніколі не быў у Вас,
кажыце, куды кіравацца?»

І ў вэлюме белых сноў
ля рысы апошняй станем —
абрысамі з туманоў
хітнемся і ўшчэнт растанем.

### Самае чытанае на nn.by за 30 лістапада — 6 снежня

1 Беларускія студэнты атрымаюць магчымасць бясплатна вучыцца ва ўніверсітэтах Еўропы

2 Суд: прыгаварыць да расстрэлу

3 Расійскі Першы канал: Двое абвінавачаных у тэрарызме прысуджаныя да расстрэлу

4 Лукашэнкаўскія тэлеканалы паказалі допыты і вочную стаўку Кавалёва і Канавалава

5 У Мінску маці Кавалёва жыве ў сям'і пацярпелых ад тэракта

6 Лукашэнка: «Мае партрэты нідзе не вісяць»

7 Украінская «Вялікая розніца» пра Лукашэнку — відэа

8 Мурашка: З 2005 года збіраю чэкі з крамаў дзеля алібі

9 У Нацыянальнай бібліятэцы адкрылі пункт калектыўнага карыстання туалетнай паперай + фота

10 НТВ: Беларускіх тэрарыстаў вырашана забіць

# Маці Кавалёва жыла ў Мінску ў сям'і пацярпелых ад тэракта

**Грамадства раскалолася** ў пытанні прысуду Канавалаву і Кавалёву.

Вярхоўны суд прыгаварыў Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва да смяротнага пакарання. Іх прызналі вінаватымі ў тэракце 11 красавіка, а таксама ранейшых эпізодах, як выбухі на Дзень Рэспублікі — 2008 і віцебскія выбухі ў 2005-м.

Абскардзіць прысуд нельга. Можна толькі разлічваць на літасць ад кіраўніка дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка ў любым выпадку будзе вырашаць, прывесці прысуд у выкананне ці адмяніць. Лукашэнка ўжо сказаў, што для яго гэта складаная задача.

Нават па вынясенні прысуду справа Канавалава—Кавалёва працягвае выклікаць пытанні. У інтэрнэце працягваюцца вялікія дэбаты. Многія не вераць, што два смаркачы маглі гадамі штосьці ўзрываць, каб і спецслужбы з міліцыяй таго не выкрылі. У той жа час лукашэнкаўскія СМІ зладжана ўхваляюць прысуд. Яны даюць слова тым сваякам ахвяраў, якія кажуць: «Расстрэл для іх — занадта лёгкая смерць».

Сваякі Канавалава са СМІ не звязваюцца. У Віцебску іх усюды суправаджае ахова.



Першы намеснік старшыні КДБ Віктар Вягера можа ўздыхнуць спакойна: працэс скончаны. «Стварэнне ў Беларусі сістэмы супрацьдзеяння тэрарызму — адна з прычын, чаму так хутка раскрылі злачынства», — мяркуе ён.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

А вось мама і сястра Кавалёва за свайго сына і брата актыўна змагаюцца. Маці падала прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Яна атрымала паўгадзіннае спатканне з сынам. Сустрэчу дазволілі і сястры асуджанага, Таццяне. «Улад плача, — кажа Любоў Кавалёва. — Нічога не баіцца, толькі па нас сумуе. Дачка сказала, што мы за яго змагаемся».

Сваю прэс-канферэнцыю Кавалёва правяла ў Варшаве, дзе справа таксама выклікае вялізную цікавасць. У віну сына яна не верыць. А яшчэ Кавалёва расказала, што ў Мінску яна часова спынялася ў сям'і пацярпелага ад тэракта.

**Сяргей Макарэвіч**

**Мурашка: Шэсць гадоў я збіраў усе чэкі, каб мець алібі**

Былы абвінавачаны па справах выбухаў 2005 года ў Віцебску Віталь Мурашка прызнаўся, што ўсе гэтыя гады не выходзіў адзін у горад, хадзіў толькі да знаёмых прадаўцоў, а на святы выязджаў за горад у вялікай кампаніі.

«І гэта адыграла сваю ролю: калі да мяне прыйшлі пасля 3 ліпеня 2008 года, у мяне было алібі — я акурат набываў у шапіку праз дарогу нешта, і ў мяне быў чэк».

Віталь за судом Канавалава-Кавалёва сачыў па тэлевізары. Працэс не ацэньвае, але адзначае: «Там жа людзі не дурныя, яны ведаюць, як паказаць усё прыгожа. Злачынства з нашым удзелам таксама раскрылі прыгожа! Там таксама праз тыдзень прэзідэнт заявіў, што злавілі. А потым, калі нас выпусцілі цішком, калі высветлілася, што не тыя, то ніхто асабліва пра гэта не пісаў!»

Чэкі за ўсе гэтыя гады ён захоўвае ў вялікіх скрынках. Але не наракае на следчых: кажа, прызнанняў з яго ў турме ніхто не выбіваў.

**Паводле Еўрарадыё**

# Дык як выйшлі на КіК праз суткі пасля тэракта?

Пасля публікацый у СМІ пра **«белыя плямы» тэракта** кіраўнікі следства далі адказы на шэраг спрэчных пытанняў.

**Чаму на Канавалаву не знайшлі слядоў выбухоўкі?** Бо іх можна было знайсці толькі на блізкай адлегласці, 2,5 метра, ад эпіцэнтра выбуху. А ён стаяў далёка і за пярэгарадкай.

**Чаму на бомбе з 2008 года знайшлі пылок, уласцівы Заходняй Беларусі, а не Віцебску?** Бо ў раёне, дзе жыў Канавалаў, калісьці стаяў панскі маёнтак, дзе раслі, магчыма, грабы і букі.

Засталося без адказу, аднак, пытанне, **якім чынам Канавалава і Кавалёва знайшлі праз суткі пасля тэракта**. Дакладней, ізноў прагучала афіцыйная версія: хтосьці з хлапцоў выйшаў у краму па гарэлку, дзе яго па фотаробаце пазнаў агент і прасачыў за падазраваным. Хаця на судзе і Кавалёў, і Пачыцкая заяўлялі, што ў той дзень ніхто кватэры не пакідаў.

Сілавікі кажуць, што вылічылі па відэа: чалавек з чорнай сумкай выходзіў і заходзіў у метро на «Фрунзенскай». Вось яго і пачалі аператыўна шукаць у квадраце вуліц Караля — Сухая — Раманаўская Слабада — Няміга. Намеснік міністра ўнутраных справаў Пякарскі нават раскрыў: калі б не знайшлі адразу, перакрылі б усе вакзалы і аўтавакзалы. Былі ўжо выдрукаваны 8000 плакатаў з фотам Канавалава, якім яго зафіксавалі камеры відэаназірання.

Але ў версію з паходам па гарэлку не ўсе вераць. Калі так, дык чаму ў судзе не сведчыў супрацоўнік, які Канавалава пазнаў? Нават калі ён сакрэтны суперагент, ён мог бы сведчыць інкогніта, як тое не раз бывала.

**Хтосьці мяркуе, што Канавалава маглі вылічыць пры банальнай праверцы ўсіх кватэраў, якія здаюцца на суткі.** Такое жытло шчыльна кантраляваліся спецслужбамі яшчэ за савецкім часам. Тады, праўда, іх называлі «прытонамі». Цяпер гэта законны бізнэс, але не выключана, што кантроль захаваўся. Цяпер нават відэаназіранне — справа лёгкая. Вось і пазналі Канавалава, так бы мовіць, у жывым эфіры. А чаму не прызнаюцца? А, маўляў, каб не нагнятаць шпіянаманію.

## Швед: Камусьці не даспадобы, што так хутка раскрылі »

**Існуе версія, што знайшлі Канавалава па сім-картцы мабільніка.** Проста супаставілі маршрут таго абанента мабільнай сувязі, які максімальна супадаў з маршрутам падазраванага з сумкай. Знаходжанне тэлефона можна вызначыць з дакладнасцю да некалькіх метраў. Гэта магчыма зрабіць нават пры выключаным мабільніку, калі з яго не дасталі акумулятар. Вось так і выйшлі на кватэру, дзе балявалі Канавалаў і Кавалёў. Сапраўды, гэта не новы метад. Пасля падзей 2008 года і Плошчы тысячы людзей, чые мабільныя тэлефоны былі зарэгістраваныя ў раёне падзей, выклікалі на размовы ў міліцыю. А чаму не афішуюць? Магчыма, каб не раскрыць, што такім чынам можна вылічыць і іншых злачынцаў.

А мо проста супала, і па суседстве з кватэрай, дзе пілі КіК, жыў хтосьці з сілавікоў, хто выпадкова сутыкаўся з пастаяльцам? Але, маўляў, ніяк не выпадала яго паказваць.

**Існуе і «тэорыя змовы»:** маўляў, хтосьці ведаў пра задумы Канавалава, але нічога не зрабіў, каб іх прадухіліць. Затое пасля яго хуценька павязалі.

Кіраўнікі следства на такія версіі крыўдуюць. Намеснік кіраўніка Следчага камітэта Андрэй Швед на прэс-канферэнцыі пасля прысуду адзначыў, што апошнім часам у СМІ з'яўлялася ілжывая інфармацыя, «мэта якой — аказаць ціск на ўлады і суд». Паводле яго словаў, «камусьці не даспадобы, што такое злачынства так хутка раскрылі».

У той жа час першы намеснік старшыні КДБ Віктар Вягера заявіў: «Стварэнне ў Беларусі сістэмы супрацьдзеяння тэрарызму — адна з прычын, чаму так хутка раскрылі злачынства».

Аднак калі зараз са спазненнем пакажуць міліцыянта Х, які пазнаў Канавалава ў краме, будзе занадта позна, каб зняць усе пытанні.

**КМ**

**Даслоўна**

# Пазняк за смяротнае пакаранне, але выпадак КіК — асаблівы

Прысуд Канавалаву і Кавалёву **абвастрыў у грамадстве дыскусію** адносна смяротнага пакарання.

Ці павінна яно выкарыстоўвацца ў нашай краіне?

«У вольнай дэмакратычнай (неліберальнай) Беларусі (дзе ва ўладзе будуць разумныя людзі) смяротнае пакаранне застанецца як выключная мера для выключнага злачынства, спраўца якога ёсць пастаянна небяспечным для грамадства», — мяркуе лідар КХП-БНФ Зянон Пазняк. Аднак выпадак з Канавалавым і Кавалёвым ён называе асаблівым. «Гэта пахавала б галоўную таямніцу злачынства — хто стаіць за мінскім тэрактам. У версію следства — падарвалі метро, каб крымінальна праславіцца — цяжка паверыць».

# ...Кандрусевіч заклікаў Лукашэнку да мараторыя на смяротнае пакаранне

«Нават калі злачынства было варварскім, пакаранне не павінна быць такім, бо паводле вучэння Хрыста, мы павінны кіравацца прынцыпам не «вока за вока і зуб за зуб», але прынцыпам любові, нават да тых, хто чыніць нам зло», — напісаў каталіцкі мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч да Аляксандра Лукашэнкі. Кандрусевіч тлумачыць, што царква дапускае пакаранне смерцю толькі ў тых выпадках, калі гэта трэба, каб ўратаваць іншыя жыцці.

**ЗП**

**Рэакцыі**

# Жанчына галадае, мужчына просіць расстраляць яго

Прысуд па «справе тэрарыстаў» **выклікаў неадназначную рэакцыю**.

Далёка не ўсе людзі, як тое паказваюць на дзяржаўных тэлеканалах, ухваляюць рашэнне. Мінчанка Святлана Чорная абвясціла галадоўку. Такім чынам яна спрабуе ўратаваць жыцці хлопцаў.

А інвалід другой групы, сухотнік Валер Ганчарэнка нават просіць расстраляць сябе замест Канавалава і Кавалёва. «Я безнадзейна хворы, а ў гэтых маладых людзей яшчэ ўсё наперадзе», — кажа ён.

З гэтай прапановай мужчына звярнуўся ў Адміністрацыю прэзідэнта.

# Прыніжальная перамога «Адзінай Расіі»

**Нават паводле звестак ЦВК расійская партыя ўлады атрымала 49,5%.**

У Расіі на выбарах махлявалі, а галасы ўсё ж такі лічылі. Адміністрацыйны рэсурс быў задзейнічаны, але такога нахабства пры падліку галасоў, якое штораз адбываецца ў Беларусі, няма. Менавіта таму ўсяўладная партыя «Адзіная Расія» на выбарах у Думу набрала малы па расійскіх мерках працэнт галасоў.

Вынік «Адзінай Расіі» ў 49,5% дасць партыі мінімальную большасць у парламенце.

Камуністы набралі 19% галасоў, у «Справядлівай Расіі» — 13%, у ЛДПР Жырыноўскага — 11,5%.

Усе тры гэтыя партыі ўяўляюць сабой спарынг-партнёраў Пуціна, якія не ставяць пад сумнеў стратэгічны курс уладаў. У Думу не праходзіць партыя сталічнай інтэлігенцыі «Яблык» — 3,5%.

Вынікі прыкладна супадаюць з дадзенымі экзіт-полаў, якія праводзілі розныя сацыялагічныя службы. Сілы рэальнай апазіцыі — у тым ліку Партыю народнай свабоды Касьянава і Нямцова — да выбараў не дапусцілі.

У адказ яны заклікалі псаваць бюлетэні, але такая схема дзеяння аказалася заскладанай для выбарца, дый данесці яе праз СМІ яны не маглі. У выніку бюлетэні сапсавалі прыкладна 1,5% тых, хто прыйшоў на ўчасткі.



Упершыню ад 1993 года ў Маскве адбыўся масавы мітынг за свабодныя выбары. На Чыстыя Пруды прыйшло 8 тысяч чалавек. Некаторыя нават прарваліся да Лубянкі. Найбольш актыўныя былі затрыманыя АМАПам.




На парламенцкіх выбарах у Расіі прагаласавалі каля 145% выбаршчыкаў. Такая інфармацыя была паказаная ў жывым эфіры канала «Расія-24».

**Расійская палітычная сцэна з Зюганавым і Жырыноўскім не мянялася ад 90-х**

Шмат людзей галасавала нагамі: выбары характарызаваліся зусім нізкай яўкай — усяго каля 50%.

Магчымасці галасаваць «супраць усіх» расійскае заканадаўства не дае. Такую опцыю адмянілі, калі кандыдат «супраць усіх» часамі пачаў перамагаць.

Расійская палітычная сцэна з Зюганавым і Жырыноўскім не мянялася ад 90-х. Для расійскай сістэмы кіраванай дэмакратыі характэрная наяўнасць фармальнай апазіцыі на розных узроўнях заканадаўчай улады, якая, аднак, мае мала ўплыву на выканаўчую ўладу.

Мікола Бугай

## Мясніковіч у М'янме перабег дарогу Клінтан

**Беларускага прэм'ера сустракалі з помпай, кіраўніка амерыканскай дыпламатыі — па-мінімалісцку.**

Мясніковіч і Клінтан прыбылі ў Найп'ідо амаль адначасова. Заходні свет разглядаў першы за 50 гадоў візіт дзяржсакратара ЗША ў М'янму (раней — Бірма) як гістарычны прарыў ізаляцыі. Аднак для ўнутранага спажывання рэжым м'янманскіх генералаў пастараўся прыезд амерыканскай дэлегацыі мінімізаваць, каб грамадства краіны не ўпала ў лішнюю эйфарыю ад дэмакратызацыі.

Міхаіла Мясніковіча, які прыбыў у чацвер, спаткалі з вялікай помпай, паставілі ў ягоны гонар два білборды. Галоўная газета рэжыму змяшчае інфармацыю пра візіт Мясніковіча на першую старонку, а аб прыездзе Клінтан піша двума абзацамі на другой паласе.

ЗША пабачылі ў новай палітыцы генерала Тэйн Сэйна, новага кіраўніка хунты, выхад М'янмы з ізаляцыі. Візіт Хілары Клінтан — гэта своеасаблівая разведка.

Згодна з канстытуцыяй М'янмы, краіна ўяўляе сабой «квітнеючую дысцыплінаваную дэмакратыю».

Самая вядомая лідарка апазіцыі М'янмы — Аўнг Сан Су Чжы. Яна лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру. 15 з 21 апошняга года яна правяла пад хатнім арыштам. Цяпер яна на свабодзе. Улады выпусцілі яшчэ 230 палітвязняў.

Су Чжы вырашыла падтрымаць рэфармісцкія памкненні ўладаў. Яна мае ўзяць удзел у давыбарах у парламент.

У выніку ізаляцыі ў эканоміцы краіны абсалютна дамінуе Кітай. Генералы, якія кіруюць краінай, пераапрануўшыся ў цывільнае, маюць патрэбу ў замежных грошах і эканамічных парадах. І ў збалансаванні кітайскага ўплыву.

Свой шанец у раней закрытай краіне імкнецца злавіць і Беларусь. Раней М'янма закупляла ў Беларусі верталёты.

Беларускія газеты пісалі ў свой час, што М'янма ўяўляе для Беларусі цікавасць у галіне вайскова-тэхнічнага супрацоўніцтва. М'янма ўвесь час вядзе вайну супраць партызанскіх рухаў нацыянальных меншасцяў на ўскраінах краіны.

У адрозненне ад Клінтан, Мясніковіч сустракацца з лідаркай апазіцыі намеру не меў. А гэта ставіць пад пытанне будучыню ўсіх эканамічных праектаў, калі Су Чжы прыйдзе да ўлады (тое самае чакае беларускія праекты і ў Венесуэле ў выпадку сыходу Чавеса). На адзіных свабодных выбарах, у якіх ёй дазволілі ўдзельнічаць, яна набрала 80% галасоў. Генералы вынікі таго галасавання паспешліва адмянілі і адправілі Су Чжы за краты. Аднак цяпер веюць іншыя вятры.

Прэзідэнт М'янмы Тэйн Сэйн двойчы сустракаўся з Су Чжы перад візітам Клінтан.

МБ



Беларускую дэлегацыю сустракалі на самым высокім узроўні.

## «Што, я павінен быў маліцца на гэтую ржавую трубу?»

**Кіраўнік дзяржавы абараняецца ад абвінавачанняў у «распродажы незалежнасці».**

Аляксандр Лукашэнка лічыць «вельмі выгаднымі» для Беларусі дамоўленасці з Расіяй у газавай сферы і адхіляе абвінавачанні ў «распродажы незалежнасці краіны».

«Прадаўшы 50% «Белтрансгаза», Беларусь нічога не страчвае, а наадварот, значна набывае, атрымаўшы вялікую скідку па прыродным газе. Гэтая эканомія ў год можа скласці 3 мільярды даляраў. Плюс 2,5 мільярды яны нам пералічылі», — сказаў Лукашэнка.

«Гэтае рашэнне [па «Белтрансгазе»] развязала цэлы вузел праблем ва ўзаемаадносінах з Расійскай Федэрацыяй», — канстатаваў Лукашэнка.

«І што, я павінен быў маліцца на гэтую ржавую трубу, якая ў зямлі ляжыць?» — сказаў Лукашэнка. «Ну, вось яны пабудавалі адну трубу «Паўночнага патоку», цяпер другую пабудуюць. Расія — супербагатая краіна, яна можа падарыць нам гэтую трубу — задушыся ёю! Але што ты пампаваць будзеш па гэтай трубе? Прыродны газ — гэта нават не нафта. Нафту мы можам з Венесуэлы прывезці, яшчэ аднекуль. Прыродны газ не прывязеш», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

«Вось калі б «Белтрансгаз» купілі Еўрасаюз ці Амерыка, паверце, была б поўная цішыня. І не было б «здрады», не было б «здачы незалежнасці і суверэнітэту», як яны кажуць і енчаць там. Усё гэта — гнілая, дохлая палітыка», — адзначыў Лукашэнка.

ЗП

# Бізнэс з 90-х

**Беларускія супермаркеты** тэхнікі яшчэ не прададзеныя ні расійцам, ні еўрапейцам.

Звярнуцца ў інтэрнэт-крамы ці ў салон? Ашчадзіць $100 ці атрымаць гарантыю сэрвіс-цэнтра і магчымасць «памацаць» тавар сваімі рукамі? Такі нялёгкі выбар стаіць перад беларусамі, якія выбіраюць сабе бытавую тэхніку. З кожным годам колькасць сеткавых крамаў расце, а іх прапановы выглядаюць усё больш прывабнымі.

«Наша Ніва» разбіраецца, наколькі развіты рынак супермаркетаў электронікі ў Беларусі.



Андрэй Балабін («Пяты элемент») — злева.



Заходнія сеткавыя крамы прыцягваюць шалёнымі распродажамі.

Заходнія карпарацыі прыйшлі ў Расію. Хутка дабяруцца і да Беларусі.

## Цывілізаваны гандаль

Гіпермаркеты і салоны ва ўяўленні беларускіх чыноўнікаў выглядаюць эвалюцыйнай прыступкай развіцця продажаў. Рынкі і інтэрнэт-крамы нібыта мусяць адмерці, не вытрымаўшы канкурэнцыі з «цывілізаваным» гандлем. І хоць амбіцыйныя планы па будаўніцтве буйных крамаў далёкія ад рэалізацыі, у краіне ўжо працуюць чатыры сеткі. Хто валодае імі?

## «Пяты элемент» (ЗАТ «Патыа»)

Сетка ўжо прадстаўлена ў 16 гарадах Беларусі, у якіх знаходзіцца каля 25 крамаў. Уладальнік «Пятага элементу» — бізнэсмэн Андрэй Балабін. Ягоны паход у рэгіёны — даволі рызыкоўная задума, тым больш у крызісныя часы. Аднак выглядае на тое, што ён перапоўнены аптымізмам наконт будучыні сваёй сеткі: «Я ведаю, што мы выйграем за кошт асартыменту. Добра прадаецца сярэдні цэнавы сегмент і ніжэйшы за сярэдні».

Балабін не адмаўляецца і ад інтэрнэт-гандлю. Там дзейнасць ідзе ад імя ПУП «Маліторг»

Кампанія атрымала індульгенцыю на будучыя магчымыя памылкі, стаўшы ў 2010 годзе спонсарам Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Яна апынулася ў адным шэрагу з падраздзяленнямі «Беларуснафты» і «БелСвісБанкам».

## «Разумныя рэчы» (ЗАТ «Энергапрам»)

Сетка з’явілася яшчэ ў 1990-я. Гэта цяпер яна разраслася на 8 гарадоў (усе абласныя цэнтры, Орша і Бабруйск), а тады стваральнікі бізнэсу пачыналі з паставак тэхнікі Moulinex. Дырэктар ЗАТ «Энергапрам» — Дзмітрый Пархімовіч.



Дзмітрый Пархімовіч мае «Разумныя рэчы».

Раней «Разумныя рэчы» былі на рынку ледзь не манапалістам, год за годам атрымліваючы прэмію «Выбар года». Цяпер кампанія здала пазіцыі, саступіўшы першынства канкурэнтам.

## «Электрасіла» (ААТ «Электрасервіс і К»)

Яшчэ адзін даўні брэнд на беларускім рынку, створаны нават да прыходу да ўлады Лукашэнкі. «Электрасіла» таксама выйшла ў рэгіёны, але наймацнейшыя пазіцыі захоўвае ў Мінску, дзе знаходзіцца сем крамаў сеткі. Кіруе бізнэсам Андрэй Хоміч, самы малады з усіх «калег» па рынку.



Андрэй Хоміч



Павел Тапузідзіс на выбарах узначальваў выбарчую камісію.

## «Карона Тэхна» (ААТ «Тытунь-Інвест»)

Продажы электронікі — дадатковы бізнэс цыгарэтнага магната Паўла Тапузідзіса. Падрабязна пра яго «Наша Ніва» пісала ў №28 за гэты год. Бізнэсмэн, які пачынаў сваю справу ў Грузіі з цацачных самалёцікаў, прабіўся ў закрыты цыгарэтны рынак Беларусі і мае з гэтага дастаткова грошай, каб трымаць і верталётны бізнэс.

Ягоная «Карона-Тэхна» працуе ў Мінску, Брэсце, Бабруйску і Віцебску. Ва ўсіх пералічаных гарадах крамы спалучаюцца з гіпермаркетамі «Карона».

## «Просяць выбраць тэлевізар — і сыходзяць купляць яго ў інтэрнэце»

Пра асаблівасці працы салонаў тэхнікі расказвае Андрэй, прадавец-кансультант салона «Пяты элемент»:

**«НН»: Наколькі крызіс ударыў па прыярытэтах беларусаў?**

**АК:** Найбольшы попыт з’явіцца перад Новым годам, калі людзям будзе ўсё адно што купляць, галоўнае — купіць. Тады кліенты могуць «вынесці» з крамы ледзь не ўсё — і тэлевізары, і халадзільнікі. У астатні час пераважна купляюць чайнікі, прасы, дробную тэхніку. Выключэнне — юрыдычныя асобы, яны купляюць тавар на працягу ўсяго года, не звяртаючы ўвагі на цану.

**«НН»: Па тваіх назіраннях, колькі працэнтаў ад тых, хто заходзіць у салон, выходзяць з набытым таварам?**

**АК:** Па-першае, буйныя закупы, як некалькі тэлевізараў, робяць «касу» за дзень. Ёсць частка кліентаў, якія доўга ходзяць па салоне, уважліва ўчытваюцца ў тэхнічнае апісанне... Але яны прыходзяць, каб «памацаць» рукамі тавар, выбраны імі загадзя ў інтэрнэце. Такія людзі не займаюць нашага часу. Але хапае і іншых кліентаў, яны просяць, умоўна кажучы, падабраць ім тэлевізар да $500, выпытваюць усялякія дробязі паўгадзіны... А пасля перапісваюць на паперку назву мадэлі і сыходзяць, каб купіць яе ў інтэрнэт-краме.

**Ягор Марціновіч**

### Дзе танней?

Мы вырашылі параўнаць цэны ў трох асноўных крыніцах тавараў для беларусаў. Гэта пералічаныя вышэй салоны тэхнікі, інтэрнэт-крамы і крамы ў Польшчы і Літве, у якіх часта закупляюцца нашыя кемлівыя суайчыннікі.

| Тавар | Найлепшая прапанова ў салоне (Мінск) | Інтэрнэт-крамы (Мінск) | Крама ў Беластоку* |
|---|---|---|---|
| Тэлевізар LG 32LD350 | $550 | $535 | $344 |
| Пральная машына Indesit IWSB5085 | $313 | $283 | $237 |
| Мікрахвалёўка Samsung MW712BR | $83 | $78 | $65 |
| DVD-прайгравальнік Samsung D530 | $56 | $45 | $42 |
| Прас Philips GC2805/02 | $47 | $49 | $24 |

*за вылікам вернутага Tax-Free

## Румас: стаўкі дасягнуць піку ў снежні

Калі верыць віцэ-прэм’еру, грошы ў банкі **найвыгадней несці цяпер**.

Віцэ-прэм’ер Беларусі Сяргей Румас лічыць, што ў снежні стаўкі грашовага рынку ў краіне дасягнуць свайго піка, а затым, з улікам зніжэння інфляцыі ў снежні, магчымае іх змяншэнне. Пра гэта ён заявіў, выступаючы ў парламенце.

Пры гэтым ён чакае, што Нацбанк будзе разглядаць магчымасць зніжэння стаўкі рэфінансавання. «Трэба максімальна хутка дасягнуць піка ставак, а затым хутка змяншацца», — растлумачыў ён абраную тактыку.

Нагадаем, стаўкі па экспрэс-крэдытах у Беларусі перайшлі за мяжу ў 100%, стаўкі па дэпазітах вышэйшыя за 50%. Калі верыць Румасу, грошы ў банкі грошы ў банкі найвыгадней несці менавіта цяпер, да сярэдзіны снежня.

Стаўка рэфінансавання знаходзіцца на ўзроўні 40%, гэта сусветны рэкорд. На другім месцы Конга, мы апярэджваем яго амаль у два разы.

**ЯМ**

# Паліва падаражэла адзінаццаты раз

Але «Стоп-бензіны» **больш не праводзяцца**.

3 снежня адбылося чарговае павышэнне цэн на нафтапрадукты — ужо адзінаццаты раз за год! Паліва падаражэла ў сярэднім на 10%.

Узровень цэнаў у суседніх краінах можна ўбачыць у табліцы — каб зраўняцца з Літвой, бензін і салярка мусяць падаражэць яшчэ ў 2,5 раза.

**СГ, ЯМ**

| Паліва | 01.01. 2011 | 07.12. 2011 | Рост цаны за год | Цана ў Расіі | Цана ў Літве |
|---|---|---|---|---|---|
| Н-80 | 2250 | 5400 | 140% | 6 930 | – |
| АІ-92 | 2870 | 5700 | 99% | 7 470 | – |
| АІ-95 | 3240 | 6100 | 88% | 8 100 | 15 100 |
| Дызель | 2580 | 6300 | 144% | 8 100 | 15 000 |

### Сцісла

**Мясніковіч прывёз з В’етнама і М’янмы кантрактаў на $200 мільёнаў**

Заключаныя дамовы на пастаўку калійных угнаенняў, аўтамабільнай тэхнікі, шын і камплектавальнікаў.

**Сувязь «Вэлкам» даражэе на 15%**

Новыя тарыфы ўступілі ў сілу 1 снежня. Папярэдні раз аўстрыйскі аператар павялічваў кошт размоў у сярэдзіне кастрычніка.

**МВФ сёлета не будзе праводзіць перамоваў з Беларуссю**

«Беларускія ўлады не прадэманстравалі цвёрдасці сваіх намераў», — заявіла старшыня прадстаўніцтва фонду ў Мінску Наталля Калядзіна.

**ЯМ**

# Прадпрымальнік судзіцца са справамі прэзідэнта

Фірма «Агранэкс» вось ужо **каторы год б’ецца** за арандаваную плошчу.

Прадпрымальнік Уладзімір Глушакоў, які з’яўляецца сузаснавальнікам ТДА «Агранэкс», абвінавачвае Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта (ГГУ) у шматлікіх парушэннях закона.

Уладзімір разам з кампаньёнамі займаецца выпускам камплектавальнікаў для жалюзі. Вытворчыя і складскія памяшканні іх кампаніі ТДА «Агранэкс» знаходзіліся ў мінскім раёне Уручча. Права аператыўнага кіравання аб’ектам мела Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта , з якім і была заключаная арэндная дамова. «Згодна са статутам ГГУ памяшканні маглі быць толькі перададзеныя ў арэнду. Іншага прымянення для іх не можа быць», — удакладняе Глушакоў. Дамову заключылі ў 2004 годзе. «Яна бестэрміновая, перазаключаецца кожныя 11 месяцаў і можа быць разарваная па ўзаемнай згодзе альбо пры невыкананні адным з бакоў сваіх абавязкаў», — тлумачыць прадпрымальнік.

У канцы 2006 выйшаў указ № 575 «Аб парадку распараджэння дзяржаўнай маёмасцю». Ён даваў структурам, за якімі было замацавана права аператыўнага кіравання збудаваннямі, памяшканнямі і машынамі, дадатковыя магчымасці, але не распаўсюджваўся на маёмасць, дамова наконт якой была заключаная да ўступлення ў сілу закона. «Да канца 2006 ГГУ хацела перазаключыць дамовы з усімі арандатарамі, каб яны як мага хутчэй трапілі пад дзеянне ўказа», — згадвае прадпрымальнік. Ён ад дадатковага пагаднення адмовіўся.

Напружанне нарастала, «Агранэксу» па патрабаванні ГГУ была адключаная электрычнасць, што зрабіла працу прадпрыемства немагчымай. У сувязі з гэтым прадпрымальнік спасылаецца на арт. 585 Грамадзянскага кодэкса, згодна з якім арэндная плата мусіць быць зменшаная, калі ў сілу абставінаў, за якія арандатар не адказвае, умовы карыстання памяшканнем істотна змяніліся.

Галоўнае пытанне, на якое прадпрымальнік і ГГУ маюць розны адказ, зводзіцца да таго, ці скасаваная дамова арэнды. Прадстаўнік «Агранэкса» не паставіў свой подпіс пад дакументам, ды і суд сваім рашэннем не разрываў дамовы.

Урэшце ў снежні 2008 суд усё ж запатрабаваў ад «Агранэкса» вызваліць памяшканне. Да гэтай фармулёўкі Уладзімір Глушакоў падышоў літаральна: «Мы арандавалі не «памяшканне», а сем памяшканняў. Якое з іх трэба вызваліць? У рашэнні суда такога адказу няма». Па дакументах ягонае прадпрыемства ўсё яшчэ займае раней арандаваную тэрыторыю, на што і скардзіцца ГГУ.

Да суда Глушакоў мае асобныя прэтэнзіі. Ён сцвярджае, што суд прымаў падробленыя ГГУ дакументы і самавольна змяняў фармулёўкі законаў. «Я ў сваіх зваротах называю іх злачынцамі, а яны робяць выгляд, што не бачаць гэтыя фармулёўкі, і не адказваюць на іх».

Тым не менш, па рашэнні суда «Агранэкс» павінен заплаціць за нібыта існуючую пазычанасць больш за 30 мільёнаў рублёў. «Але мы не павінны ні рубля! — перакананы Глушакоў. — Ні суд, ні ГГУ не даюць тлумачэння, адкуль узятыя лічбы. Больш за тое, паводле бухгалтарскага ўліку прадпрыемства ўсё яшчэ мае больш за 1000 еўра перадаплаты за арэнду».

Цяпер ГГУ працягвае спробы спагнаць грошы з прадпрымальніка.

«Мая сітуацыя — добры прыклад для інвестараў, як працуюць дзяржаўныя арганізацыі ў Беларусі. Кіраўніцтва справамі атрымала маёмасць у аператыўнае кіраванне, а цяпер спрабуе захапіць яе ў парушэнне закона. І ўсё гэта адбываецца пры маўклівай згодзе судоў», — падсумоўвае Уладзімір Глушакоў.

**Ягор Марціновіч**

**Звярнуўся чытач**

## Звольнілі ў дэкрэтным адпачынку? Le diable est dans les détails



**Мінскі лінгвістычны:** «Можа вярнуцца на працу, абы толькі хацела».

У «Нашу Ніву» звярнуўся муж былой выкладчыцы МДЛУ. Яго жонку Анастасію Л., напісаў ён, звольнілі, калі тая была ў дэкрэтным адпачынку. У 2008 Л. скончыла аспірантуру МДЛУ, і яе залічылі ў штат у якасці выкладчыцы на кафедру фанетыкі факультэта французскай мовы. Пры гэтым з дзяўчынай заключылі тэрміновую працоўную дамову на 3 гады.

У 2009 яна пайшла ў планавы адпачынак, які перайшоў у дэкрэтны. Л. планавала глядзець дзіця да мая 2012, пакуль яму не споўніцца 3 гады, а потым выйсці на працу. Але сёлета ў пачатку лістапада з МДЛУ прыйшоў ліст. У ім паведамлялася, што Л. звольнена ў сувязі са сканчэннем тэрміну працоўнай дамовы.

Начальнік аддзела кадраў Аляксей Пчалінцаў адказаў сям’і Л., што ўсё законна. З Л. была заключаная звычайная працоўная дамова, а не кантракт. Калі б гэта быў кантракт, то яе не маглі б звольніць у часе дэкрэту. У выпадку заключэння кантракту на Анастасію б распаўсюджвалася дзеянне ўказа №180 ад 12.04.2000 г.

Няўжо нельга было пайсці насустрач маладой спецыялістцы, запыталіся мы ў рэктаркі МДЛУ Наталлі Баранавай. «Мы што, звольнілі Асю?» — здзіўлена запыталася рэктарка ў адказ на наша пытанне. І патэлефанавала дэкану факультэта французскай мовы. Як кажа французская прымаўка, д'ябал — у драбніцах.

Аказалася, каб працягнуць дамову, дзяўчыне досыць было падпісаць адпаведную заяву. Факт у тым, што заява падпісана не была. Вядома, што ў той час Л. разам з мужам знаходзіліся ў Канадзе.

Гэта і стала фармальнай падставай для выдачы начальнікам аддзела кадраў загаду аб звальненні.

Спн.Баранава заверыла карэспандэнтку, што, калі Л. хоча, рэктарка гатовая з задавальненнем узнавіць яе на працы. Так што яна можа вярнуцца з замежжа на працу ў альма-матэр, абы толькі хацела.

**Аксана Рудовіч**

## Мову вяртаюць у метро пасля зваротаў грамадзян

Цяпер ролік пра ўзаемную ветлівасць **перазапісваюць па-беларуску**.

Як паведаміла «НН» у №44, абвестку-заклік саступаць месца цяжарным і людзям сталага веку ў вагонах пачалі абвяшчаць на мове ўсходняга суседа.

«Не ўсе госці сталіцы могуць зразумець па-беларуску», — выкручваўся начальнік электрадэпо «Маскоўскае» Андрэй Міхайлоўскі.



SOLO-34.BLOGSPOT.COM

Спроба ўскласці на беларускую мову адказнасць за няветлівасць моладзі выклікала ў інтэрнэце гарачае абмеркаванне. Інтэрнэт-карыстальнікі збіралі подпісы за вяртанне беларускамоўнай сацыяльнай рэкламы, скіроўвалі звароты да кіраўніцтва Мінскага метрапалітэна. І кіраўніцтва метрапалітэна прыслухалася.

«Ролік перазапісваюць жаночым голасам, але па-беларуску. — расказаў спадар Міхаўлоўскі. — У метро вы зможаце яго пачуць праз тыдзень ці два.

**Юрась Ускоў**

## На бізнэсоўца Шаўцова заведзена крымінальная справа

Расследуе справу МУС.

На старшыню рады дырэктараў ЗАТ «Белзамежбуд», кіраўніка назіральнай рады ЗАТ «Трастбанк» Віктара Шаўцова заведзена крымінальная справа. Гэта пацвердзілі ў Генпракуратуры.

Расследуе справу МУС. Там сітуацыю не каментуюць. Паводле неафіцыйнай інфармацыі прычынай арышту маглі быць незаконныя дзеянні кампаніі «Белзамежбуд», якая займаецца будаўнічымі праектамі ў Венесуэле.

Шаўцоў уваходзіць у дзясятку найбольш уплывовых беларускіх бізнэсмэнаў. Апрача будаўніцтва і фінансаў ён мае актывы ў СП ЗАТ «МАЗ—МАН», ЗП «БМЕ-Дызель», музеі старадаўніх народных рамёстваў «Дудуткі».

**Паводле БелаПАН**



# Павіншуй вязняў з наваготнімі святамі

Падтрымаць асуджаных можна **лістом альбо тэлеграмай**.

У кастрычніку апазіцыйныя палітыкі і праваабаронцы ўзгадналі спіс палітвязняў. Іх у Беларусі 11 чалавек. Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Бандарэнка, Андрэй Саннікаў, Алесь Бяляцкі, Мікалай Аўтуховіч, Зміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Павел Севярынец, Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок і Аляксандр Францкевіч.

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька прапаноўвае спіс палітзняволеных пабудаваць па формуле «11+3». Трое — Яўген Васьковіч, Павел Сырамалотаў і Арцём Пракапенка, асуджаныя за спробу падпалу будынка КДБ у Бабруйску. Маладыя людзі не прызналі сябе вінаватымі ў наўмысным знішчэнні маёмасці. Паводле слоў Лябедзькі, ёсць некаторыя разыходжанні па справе праз недастатковую інфармацыю.

**Мікалай Статкевіч, Арцём Пракапенка:** 213004, Магілёўская вобл., г. Шклоў, папраўчая калонія № 17;

**Андрэй Саннікаў:** 211300, Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п.Віцьба, ПК №3;

**Дзмітрый Бандарэнка, Мікалай Дзядок:** 213105 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, ПК № 15;

**Эдуард Лобаў, Аляксандр Францкевіч:** 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, ПК № 22;

**Зміцер Дашкевіч:** 211791, Віцебская вобл., г.Глыбокае, вул. Савецкая, 205, ПК № 13;

**Павел Севярынец:** 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7;

**Ігар Аліневіч:** 211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, ПК № 10;

**Алесь Бяляцкі:** 222160, Мінская вобл., г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А, турма № 8;

**Мікалай Аўтуховіч:** 225293, Брэсцкая вобласць, г. Івацэвічы, ПК-5;

**Яўген Васьковіч:** 212011, г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма № 4;

**Павел Сырамалотаў:** 213030, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19.

Памятайце, што лісты не заўжды даходзяць своечасова. Таму варта адпраўляць іх загадзя.

Кастусь Матушыч



PHOTO BYMEDIA.NET

Злева направа: Вольга Бандарэнка (жонка Дзмітрыя), Марына Адамовіч (жонка Статкевіча), Наталля Пінчук (жонка Бяляцкага). На заднім плане былыя палітвязні Сяргей Вазняк і Дзмітрый Ус. Прэзентацыя кнігі «Адзін дзень палітвязня 2009-20011». Мінск, 1 снежня.



**Дзмітрый Новік**

нарадзіўся ў 1981 у Баранавічах. Да арышту працаваў у службе бяспекі ў пасольстве Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Асуджаны на 3,5 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму па справе аб масавых беспарадках 19 снежня 2010. Вызвалены 15 верасня.

## «Раблю рамонт дома»

Былы **палітвязень Дзмітрый Новік** з турмы вярнуўся ў Баранавічы.

**«Наша Ніва»: Чым займаецеся пасля вызвалення?**

**Дзмітрый Новік:** Больш часу праводжу са сваімі роднымі і блізкімі, бо яны напакутаваліся не менш за мяне. Раблю рамонт дома ў Баранавічах.

**«НН»: Да арышту вы працавалі ў пасольстве Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Не спрабавалі туды вярнуцца?**

**ДН:** Не спрабаваў і не думаў вяртацца, бо гэтая праца мне ўжо нецікавая. Пакуль нідзе не працую.

**«НН»: Перад вызваленнем Вы падпісалі нейкі дакумент?**

**ДН:** 10 верасня апошні раз прапанавалі падпісаць прашэнне аб памілаванні (усяго чатыры разы). Спецыяльна прыязджалі супрацоўнікі КДБ. Аказваўся ціск, паступалі пагрозы ад адміністрацыі і актывістаў калоніі. У выніку я напісаў, што прашу вызваліць мяне ад далейшага адбыцця пакарання. Прашэнне аб памілаванні, але без прызнання віны, не ў той форме, якая прадугледжваецца па законе. І мне сказалі, што ў такім выпадку ў нармальным стане мы не выйдзем адтуль.

**«НН»: Гэты былі толькі словы?**

**ДН:** Скажу, што было не сумна апошнія дні. Тры дні запар ад ранку да вечара ў кожным атрадзе, дзе знаходзіліся палітвязні, у прыватнасці я, Уладзімір Лобан, Аляксандр Класкоўскі, дзяжурылі кантралёры. Такая параноя напружвала. І гэта было вынікам папярэдняга ціску (узмацнення рэжыму, пазбаўлення ўсяго магчымага).

**«НН»: Вы заявілі па выхадзе, што КДБ Вас выдаў знаёмы. Гэта праўда?**

**ДН:** Праўда. Гэта быў мой калега па працы ў пасольстве ААЭ. Ён таксама знаходзіўся на Плошчы 19 снежня. Увечары 23 снежня ён патэлафанаваў мне і папрасіў аб тэрміновай сустрэчы. Я прапанаваў на працы пагаварыць назаўтра. Але ён настойваў. Дамовіліся сустрэцца каля майго дома. Але ў дамоўленае месца на яго машыне прыехалі супрацоўнікі КДБ. З таго часу я знаходзіўся ў СІЗА.

**«НН»: Па вызваленні з гэтым чалавекам больш не кантактавалі?**

**ДН:** Канечне, не.

**«НН»: Не шкадуеце, што выйшлі тады на Плошчу?**

**ДН:** Не. Гэта была мая грамадзянская пазіцыя. І цяпер яна не змянілася. Хаця мне шкада, што ўсё атрымалася так. Безумоўна, ніхто не разлічваў на такі фінал. І масавых беспарадкаў не было. Гэта была дэманстрацыя таго, што нельга пратэставаць супраць выбараў і Лукашэнкі. На нашым прыкладзе тое паказалі ўсёй Беларусі. А мы ў сваіх перакананнях цвёрдыя. Мы не пісалі прашэнняў аб памілаванні, аб супрацоўніцтве з КДБ, сядзелі да апошняга.

**«НН»: З іншымі палітвязнямі падтрымліваеце кантакты на свабодзе?**

**ДН:** Так, з некаторымі. З кім разам сядзеў у шклоўскай калоніі, з кім асабіста знаёмы.

Сяргей Макарэвіч

## Сцісла

### Умовы Васьковічу ўзмацнілі

Асуджанаму па справе бабруйскіх анархістаў Яўгену Васьковічу зрабілі больш жорсткім рэжым утрымання ў папраўчай установе «Турма № 4». Тры гады з сямі ён правядзе за кратамі ва ўмовах строгага рэжыму. Пра гэта ён паведаміў у лісце да маці. Яўген таксама напісаў пра сваё знаходжанне ў карцары. «19 кастрычніка мяне павялі на камісію па пастаноўцы на строгі рэжым. На ёй далі дзесяць сутак карцару за абразу дзейнай улады. Потым дадавалі яшчэ суткі. У ШІЗА правёў трыццаць сутак».

### Ці падтрымаюць Радзівілы палітвязняў?

Па інфармацыі Польскага радыё для замежжа, былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч і экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў звярнуліся да нашчадкаў магнацкага роду Радзівілаў з адкрытым лістом. Яны заклікаюць абумовіць свой удзел ва ўрачыстасцях у Нясвіжы вызваленнем палітвязняў у Беларусі. Аляксандр Лукашэнка запрасіў Радзівілаў узяць удзел у адкрыцці адрэстаўраванага Нясвіжскага палаца. Па неафіцыйнай інфармацыі, урачыстасці павінны прайсці 11 снежня.

### У судзе Стэфановіча перапынак

2 снежня ў судзе Партызанскага раёна Мінска пачаўся разгляд пазову інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах да Валянціна Стэфановіча. З праваабаронца спрабуюць спагнаць падаходны падатак (каля 40 млн рублёў) з грошай, якія пералічваліся яму на рахунак у літоўскім банку. За няплату падаткаў быў асуджаны на 4,5 гады турмы кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі.

КМ



Акцыя салідарнасці з Алесем Бяляцкім у Тбілісі.

# У Нацыянальнай бібліятэцы дэфіцыт туалетнай паперы




Нацыянальную бібліятэку дзяржаўная прапаганда называе **твaрам Мінска**.

Туды водзяць экскурсіі з усёй Беларусі, праводзяць міжнародныя форумы і семінары, абслугоўваюць замежныя дэлегацыі. Гэта не проста будынак, гэта доказ прагрэсіўнасці лукашэнкаўскай мадэлі і яе поспехаў. Пра яе вартасці і хібы было сказана і напісана столькі, што пра гэта можна складаць кнігі, але чарговае навaўвядзенне смешыць да колікаў.

У прыбіральні бібліятэкі вісяць вялікі жоўты ўказальнік «Туалетная бумага» са стрэлачкай, якая паказвае на апарат, адкуль звычайна бяруць паперу, каб выцерці рукі. А вось у кабінках паперы няма!

Ні ў адной з дзясятка. Апарат (такі самы, нібыта з папяровымі ручнікамі) у кожнай з іх вісіць — але пусты.

Атрымліваецца, згодна з логікай адміністрацыі, наведвальнік мусіць зайсці ў прыбіральню і ўзяць сабе паперы па патрэбах. Калі раптам не хопіць — са спушчанымі штанамі прабегчыся да апарата зноў і атрымаць новую порцыю. Вось такая эканомія ў заможнай Беларусі.

**Ягор Марціновіч**

# Амерыканскі баец Джэф Монсан у шоку ад расійскай бальніцы

**Дактары курылі** проста ў прыёмным аддзяленні, а «калідоры былі поўныя пацыентаў, падобных да ахвяраў грамадзянскай вайны».

Амерыканскі баец змяшаных стыляў Джэф Монсан, які 20 лістапада атрымаў траўму ў Маскве падчас бою з расійскім супернікам Фёдарам Емяльяненкам, быў у шоку ад расійскай бальніцы.

У другім раўндзе ён атрымаў пералом нагі.

«Мне давялося спрачацца з адным з лекараў, каб мне не рабілі рэнтген чэрапа. Мне таксама наклалі 16 швоў на вусны. Ніткі былі падобныя да дроту», — расказаў Дж. Монсан.

Пасля двубоя Монсана з Емяльяненкам адбыўся і палітычны інцыдэнт. Калі Пуцін выйшаў на рынг павіншаваць расійскага баксёра, гледачы яго абсвісталі. Прэс-служба прэм’ера Расіі спрабавала давесці, што свісталі на Монсана, але гледачы напісалі на сайце амерыканскага баксёра, што абсвісталі Пуціна, а Монсана паважаюць.

**ЗП**




## На Вілейшчыне быў выяўлены самагонны апарат памерам з дом

**Затрыманыя тры чалавекі**, якія абслугоўвалі бровар.

Міліцэйскі спецназ УУС Мінаблвыканкама 1 снежня па ананімным тэлефанаванні выявіў у вёсцы Астравы Вілейскага раёна буйны падпольны завод па вытворчасці самагонкі.

Як паведамілі ў міліцыі Мінскай вобласці, самагонная ўстаноўка займала практычна ўвесь дом. Затрыманыя трое беспрацоўных —мясцовых жыхароў. Яны абслугоўвалі незаконную вытворчасць алкаголю.

Міліцыянты канфіскавалі тону самагонкі і самагонны апарат. Акрамя таго, было канфіскавана больш за тону металу. Мяркуецца, што яго затрыманыя збіралі незаконным шляхам.

Усім траім пагражае адказнасць па артыкулах Адміністрацыйнага кодэкса: ад незаконнага вырабу і захоўвання спіртнога да парушэння правіл супрацьпажарнай бяспекі.

**Паводле БелаПАН**



## Спявачка Lady Gaga знялася цалкам аголенай

І **ў новым кліпе**, і для часопіса Vanity Fair.

Каб прагледзець новае відэа поп-каралевы Lady Gaga на песню Marry The Night, трэба запасацца попкорнам: кліп нашпігаваны эфектамі і больш падобны да кароткаметражнага кіно даўжынёй 14 хвілін. Але гэта варта таго!

Новае відэа Lady Gaga вытрымана ў звыклым стылі для спявачкі: дзеянне адбываецца ў псіхбальніцах, вакол — натоўпы фрыкаў, сама Gaga раз за разам цалкам агаляецца, абліваe сябе бензінам і танчыць дзіўныя танцы вакол падпаленых аўтамабіляў. Акрамя гэтага, кліп, як і належыць, насычаны эклектычна-вар’яцкімі ўборамі, нібы з іншых цывілізацый.

**Сямён Цыбульскі**






**Камертон Сяргея Ваганава**

## Вайна пад дахамі,

альбо Кампот з восеньскіх дзічак

У нашай «стабільна квітнеючай» краіне ідзе грамадзянская вайна.

Гэтае сумнае адкрыццё я зрабіў, калі чытаў электронны ліст ад стрыечнага брата з Казані. Якраз на тым месцы, дзе ён паведамляў пра хлеб, я пачуў брудную лаянку за сцяной, што аддзяляе мяне ад суседзяў: «Пайшла ты ў ж... са сваёй эканоміяй!»

Трэба сказаць, што суседзі мае — маці з дачкой, зяцем, унукам і ўнучкай — людзі ціхія, ні крыку, ні ляманту ад іх я ніколі не чуў. Гаспадыня заўсёды віталася стрымана, маўклівым кіўком галавы, адпаведна свaёй даволі высокай, наменклатурнай яшчэ ад савецкага часу, пасадзе. Праўда, як толькі страціла па ўзросце пасаду, стала больш добразычлівай, пры сустрэчах цікавіцца, як жыццё...

І вось на табе, на дачку — «пайшла ты...»! Вайна!

Раптам падумаў: «А я ж таксама што ні дзень безнадзейна б’юся з жонкай і ўнучкай, каб гасілі за сабой святло, не лілі залішнюю ваду, калі мыюцца, а посуд цёрлі пад танюсенькім цуркам...»

Пра сябе ж ведаю, што звычка эканоміць нарадзілася з таго даволі працяглага ад апошняй вайны часу, калі маці падкручвала кнот смуроднай газоўкі, каб ятна, што кідала на столь жахлівыя цені, хапіла да раніцы...

Але сёння што за вайна?!

Ціхая, малапрыкметная, але сапраўдная вайна пад дахамі — з лініяй фронту, з тэрорам «жыровак» і ахвярамі ў выглядзе зруйнаваных стасункаў...

Вайна, так бы мовіць, якую распачала дзяржава.

Дарэчы, гэта традыцыйны занятак і былой савецкай, і цяперашняй незалежнай нашай дзяржавы, любімая гульня — правакаваць вайну людзей супраць людзей, толькі каб не супраць яе.

**Малапрыкметная вайна з тэрорам «жыровак» і ахвярамі ў выглядзе зруйнаваных стасункаў »**

«Мама, — піша брат, — у 47-м годзе паехала ў Казань шукаць у МДБ свой дыплом аб вышэйшай будаўнічай адукацыі, які адабралі пры яе арышце і высылцы пасля расстрэлу бацькі ў 37-м. Калі знайшла, гэта адразу зрабіла яе ІТР, якім больш давалася хлеба. Раней адразалі ад буханкі, а цяпер атрымлівалі цэлую...».

Прычым тут, спытаеце вы, наша «квітнеючая» дзяржава?

Прытым, што, усталёўваючы так званыя нормы спажывання, зноўку пачала «адразаць ад буханкі» і, сама збяднелая ўшчэнт, заўзята вучыць беднату эканоміць і вышукваць «ворагаў». Нават вакол сябе.

Нядоўга, аднак, цягнулася «мірнае суіснаванне». Вайна!

Як узбудзілася раптам, пайшло ў атаку дзяржаўнае чынавенства! То міністр, то намеснік... То прэм’ер, то віцэ...

Апошнюю натацыю ад імя дзяржавы прачытала спн.Ермакова: «Урэшце, чалавеку нямнога трэба! А на якіх скардзяцца, як правіла, не самыя бедныя. Вы памятаеце пратэстныя акцыі, калі крыху падаражэла паліва? Хто пратэставаў? Людзі на крутых іншамарках... Так, сёння трэба эканоміць, лічыць. Але так жыве ўвесь свет».

Такі вось «класавы падыход» захавальніцы пазычанага валютна-залатога рэзерву.

Так, у краіне ёсць бізнэсоўцы, але бізнэс-класа няма. Ёсць прадпрымальнікі, але «сярэдняга класа» няма. Амаль усё насельніцтваператварылася, так бы мовіць, у «эканом-клас», які на сабе спазнае вялікую, нават лёсавызначальную розніцу паміж «лічыць грошы» і «лічыць апошнія грошы»...

...Праз які тыдзень я ледзь не сутыкнуўся з суседкай ля пад’езду. Трохі расчырванеўшыся, яна шпарка ішла насустрач, трымаючы ў руках стары жаночы капялюшык, набіты цвёрдымі, нібыта дзіцячыя кулачкі, зяленымі яблычкамі. Адно звалілася, пакацілася па асфальце, другое... Я кінуўся падымаць: «Гэта ж дзічкі, навошта вам?» — «А кампоту навару... Даўно не было кампоту»...

Калісьці тут, у самым цэнтры горада, здаўна квітнелі сады на прыватных сялібах. У 60-х і хаты, і сады пайшлі пад нож. Але, дзякуй Богу, захаваліся дзе-ні-дзе яблыні. Здзічэлі, праўда, але ўвесну квітнеюць, а восенню звонка сыплюцца яблычкамі на асфальт.

Ды і тое дзякуй Богу, дзівосная сёлета, несканчоная восень. Няма на што наракаць...

# Ці перагоніць Дарка Лену?

**Новы біятлонны сезон** для беларусаў ставіць асноўнае пытанне: ці зможа наша Дарка Домрачава перамагчы немку Магдалену Нойнер.

Дзве самыя перспектыўныя спартсменкі свайго пакалення. Немка ўварвалася ў біятлонную эліту імкліва і нахабна. «Залатая Лена» здзіўляла ўсіх сваёй хуткасцю, лыжы ў яе нібы ляцелі. А калі атрымлівалася справіцца з хваляваннем падчас стральбы, то перамагчы юную Нойнер было амаль немагчыма.

Нойнер заваявала два залатыя медалі на Алімпіядах, дзесяць разоў узыходзіла на вяршыню п'едэстала падчас чэмпіяната свету. Двойчы выйгравала агульны залік Кубка свету. І гэта ў 24 гады, калі не так даўно адбыўся пераход з юніёраў.

Гэта пры тым, што біятлон не самы ранні від спорту. Раскрывацца і паказваць найлепшыя вынікі тут пачынаюць бліжэй да 30 гадоў, а то і пазней. Маладых і ранніх у гэтым відзе спорту не так і шмат.

Не дзіва, што яна ўжо задумалася пра завяршэнне кар'еры. Усмешлівая Лена хоча сканцэнтравацца на мадэльнай працы. У спорце ёй ужо нецікава. Верыцца, што яе атрымаецца ўламаць не рабіць паспешлівых крокаў. Усё ж крыўдна будзе страціць адну з найярчэйшых і найпрыгажэйшых спартсменак сучаснасці.

Беларусы заўсёды мелі добрыя вынікі ў біятлоне. Некаторыя лічаць, што гэты від спорту генетычна закладзены ў нашых людзях.

**У біятлоне важныя партызанскія якасці — страляць і ўцякаць »**





«Біятлон — вяршыня беларускага партызанскага іміджу. Лясныя байцы, хуткія, моцныя і па-снайперску дакладныя, увесь час даваліся ў знакі акупантам. Біятлон — сучасная партызанка, толькі бяскроўная, захапляльная і відовішчная», — піша Павел Севярынец.

«Поспехі ў біятлоне згадваюць пра даўнейшыя нашы партызанскія якасці — уменне страляць і ўцякаць. Такім быў наш старажытны князь Усяслаў Полацкі, якога за здольнасць знікаць калі трэба і з'яўляцца там, дзе не чакалі, абвясцілі ваўкалакам і пярэваратнем», — лічыць Пятро Васючэнка.

Шмат гадоў перамогі беларускаму біятлону прыносілі Вадзім Сашурын, Аляксандр Папоў, Аляксей Айдараў, Алег Рыжанкоў, Аляксандр Сыман, Святлана Парамыгіна. Асабліва моцныя былі нашы мужчынскія квартэты ў эстафетах і камандных гонках. Нярэдка за беларусамі прыходзіў да фінішу ўвесь астатні свет.



Дар'я Домрачава гатовая пазмагацца за перамогу ў Кубку свету.

**Біятлон**

Зімовы алімпійскі від спорту, які аб'ядноўвае лыжную гонку і стральбу з вінтоўкі. Фактычна асучасненая версія паўночнага палявання. Першыя спаборніцтвы па біятлоне праходзілі ў 1767 годзе на шведска-нарвежскай мяжы. Пасля Другой сусветнай вайны біятлон быў выключаны з алімпійскай праграмы праз пацыфісцкія настроі ў тагачасным грамадстве. Толькі напрыканцы 50-х біятлон пачынае адраджацца. Тым не менш, за самастойны від спорту яго прызналі толькі ў 1992. Найбольш пашыраны ў Расіі, Швецыі, Нарвегіі, Германіі, Аўстрыі, Францыі. На сёння спаборніцтвы адбываюцца ў наступных відах: індывідуальная гонка, спрынт, гонка пераследу, мас-старт, эстафета, змяшаная эстафета. Розняцца яны адлегласцю і колькасцю мішэняў. У Беларусі Федэрацыю біятлону ўзначальвае старшыня КДБ Вадзім Зайцаў.

**Правілы**

Лыжы не павінны быць карацейшымі за рост спартоўца мінус 4 см. Для стральбы прымяняецца вінтоўка з мінімальнай вагой 3,5 кг, яна на працягу ўсёй дыстанцыі з атлетам. Забароненая аўтаматычная і паўаўтаматычная зброя. Прыцэлу вінтоўкі забаронена мець павелічальны эфект. Хуткасць кулі не павінна быць большай за 380 м/с. На стрэльбішчы адлегласць да мішэняў складае 50 метраў. Традыцыйна выкарыстоўваецца пяць чорных мішэняў на белай пласціне. Мішэнь уяўляе сабой колца дыяметрам 115 мм (пры стральбе стоячы) і 45 мм (лежачы). Штрафное кола за нятрапны стрэл складае 150 м.

**Каляндар сезона 2011-2012**

**9-11 снежня** — Хохфільцэн (Аўстрыя)

**15-18 снежня** — Ансі (Францыя)

**4-8 студзеня** — Аберхоф (Германія)

**11-15 студзеня** — Нове-Места (Чэхія)

**19-22 студзеня** — Антхольц (Італія)

**2-5 лютага** — Хольменколен (Нарвегія)

**10-12 лютага** — Кантыялахці (Фінляндыя)

**1-11 сакавіка** — Рупольдынг (Германія). Чэмпіянат свету.

**16-18 сакавіка** — Ханты-Мансійск (Расія)

Трансляцыі на каналах «Беларусь-2» і «Еўраспорт»



Магдалена Нойнер хоча сысці з біятлону ў мадэлі.

**Нойнер і Домрачава — лідары свайго пакалення »**

Часы мяняюцца. І сёння чакаць нечага вартага ад мужчынскага біятлону не выпадае. Нацыянальную каманду складаюць учарашнія юнакі, якім рана змагацца з зоркамі кшталту Б'ёрндалена і Фуркада. Ды і з трэнерамі праблема. Многія з'ехалі, астатнія адышлі, засталіся нямногія.

Застаецца толькі з надзей сачыць за жаночымі гонкамі. Дзе канкурэнцыю Лене Нойнер не першы год спрабуе стварыць наша Дар'я Домрачава. Яна беларуска, але бацькі былі з'ехалі на заробкі ў Нягань Цюменскай вобласці. Там Дар'я і пачала спасцігаць азы біятлону.

Калі прыйшоў час выступаць на дарослым узроўні, Домрачава абрала Беларусь, а не Расію.

Домрачава таленавітая, але ёй далёка да стабільных выступленняў. Пасля цудоўнага спрынту ў яе можа адбыцца правальная гонка пераследу. Нямецкі трэнер Клаўс Зіберт паставіў ёй стральбу, а вось з хадой на дыстанцыі застаюцца праблемы.

Мінулы сезон Дар'я скончыла дзвюма перамогамі, новы таксама пачала з вікторыі. Праўда, ужо дзве наступныя гонкі прайшлі пад знакам Нойнер.

Падаецца, што на сёння Дар'я гатовая да сур'ёзнага змагання за Крыштальны Глобус пераможцы агульнага заліку. Але для гэтага трэба перамагаць непараўнальную Нойнер. Задача не з самых простых, але вырашальная.

**Зміцер Панкавец**

# «На пахаванне прыйшлі ўсе Пружаны»

Пра аднаго з **загіблых у авіякатастрофе** пілотаў верталёта згадвае яго таварыш.

29 лістапада ў Пружанскім раёне разбіўся вайсковы верталёт Мі-24. 38-гадовы камандзір экіпажа маёр Алег Кахно, 32-гадовы штурман Дзяніс Глушчанка і 43-гадовы бортінжынер Валеры Бабко загінулі.

«Такое ўражанне, што ўсе Пружаны прыйшлі з хлопцамі развітацца. Вельмі шмат людзей было ў ДК, на могілках. З Брэста таксама многія прыехалі», — расказаў «НН» сябар аднаго з загінулых у авіякатастрофе пілотаў верталёта Мі-24 Андрэй Бахун.

З 32-гадовым штурманам Дзянісам Глушчанкам Андрэй часта сустракаўся на гульнях у страйкбол. «Прыемны ў адносінах быў, заўсёды ўсмешка на твары. І надзейны — мы заўсёды «ваявалі» на адным баку», — прыгадвае Андрэй. Па яго словах, Дзяніс, ці Дэн, як яны яго звалі ў камандзе, заўсёды быў гатовы падзяліцца апошнім — і ў гульні, і ў жыцці.

«Гэта быў вельмі разумны чалавек, кемлівы, з надзвычай хуткай рэакцыяй. Прымаў рашэнні імгненна», — характарызуе штурмана Глушчанку таварыш. Андрэй кажа, што сярод калегаў-вайскоўцаў Дзяніс быў прыроджаным лідарам — «альтэрнатывы ў гэтым яму не было».

У загінулага верталётчыка засталася сям'я — жонка і маленькае дзіця. «Будзем дапамагаць ім усёй камандай», — кажа Андрэй.

**Сямён Печанко**



**Катастрофы вайсковай авіяцыі Беларусі**

Катастрофа на Пружаншчыне стала 5-й у гісторыі вайсковай авіяцыі Беларусі за апошнія 3 гады і 2-й — з удзелам верталётаў.

**30 жніўня 2009** у Польшчы пад Радамам на авіяшоу разбіўся беларускі Су–27. Пілоты, палкоўнікі Аляксандр Марфіцкі і Аляксандр Жураўлевіч, цаной уласных жыццяў адвялі самалёт ад горада. У Радаме лётчыкам паставілі помнік.

**21 красавіка 2010** у небе сутыкнуліся два МіГ-29 927-й знішчальнай авіябазы (Бяроза). Адзін МіГ паспяхова прызямліўся, пілотам другога давялося катапультавацца.

**23 верасня 2010** у Ганцавіцкім раёне разбіўся МіГ-29 61-й знішчальнай авіябазы. Пілоты, падпалкоўнік Сяргей Каваленка і маёр Аляксандр Жыгайла, адвялі самалёт ад вёскі, не паспеўшы катапультавацца.

**25 кастрычніка 2011** на Пастаўшчыне разбіўся верталёт Памежнага камітэта AS-355NP «Ecureuil». Загінулі пілоты Ігар Скварцоў, Андрэй Пякарскі і журналісты Юлія Шатэрнік, Віталь Прачкоўскі, Сяргей Шамалаў, якія рабілі спецыяльны рэпартаж з мяжы.

**Падрыхтаваў СП**

# Трагедыя ў Магілёве: аўто звалілася з моста ў раку



**Загінула кіроўца** аўтамабіля. Магчыма, у момант аварыі ёй стала кепска.

2 снежня ў Магілёве на мосце праз раку Дубровенка здарылася страшная аўтакатастрофа. Па словах відавочцаў, уседарожнік Honda CR-V раптоўна выехаў на паласу сустрэчнага руху і па чарзе сутыкнуўся з двума легкавікамі. Пасля гэтага Honda выехала на ходнік, пратараніла агароджу моста і звалілася з 20-метровай вышыні ў раку. Як высветлілася пазней, за рулём «Хонды» была 56-гадовая жанчына. Яна загінула на месцы здарэння.

Адзін з відавочцаў здарэння расказаў парталу Auto.onliner.by, што адразу пасля падзення аўто ў раку ў ваду кінуліся два мінакі, якія паспрабавалі выцягнуць кіроўцу з растоўчанага аўтамабіля, але безвынікова.

Паводле папярэдняй інфармацыі, прычынай аварыі на мосце магло стаць кепскае самаадчуванне жанчыны. Высветлена, што на момант аварыі яна ехала з дазволенай хуткасцю.

Відавочцы трагедыі ў Магілёве звяртаюць увагу на занадта нізкія бардзюры на мосце на праспекце Міра. Мяркую, пасля сутыкнення «Хонда» фактычна бесперашкодна вылецела на ходнік.

**СП**

**Народжаныя ў кашулі**

10 студзеня 2011 у Гомелі на мосце кіроўца «Мерсэдэс-Бэнц» страціў кіраванне, легкавік выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з «Маздай». Пасля гэтага «Мерсэдэс» пратараніў агароджу і зваліўся побач з чыгуначнымі шляхамі. Кіроўца і пасажыр у той катастрофе выжылі.

# 36-гадовы намеснік гендырэктара Дома друку забіў жонку, а сам застрэліўся

Жонка збірала рэчы, каб **сысці да іншага мужчыны**.



Пракуратура Савецкага раёна Мінска праводзіць праверку па факце забойства і самагубства ў кватэры дома на вуліцы Хмяльніцкага ў сталіцы.

Як паведаміў старшы памочнік пракурора Мінска Сяргей Балашоў, трагедыя адбылася ноччу 3 снежня. 36-гадовы намеснік генеральнага дырэктара РУП «Выдавецтва «Беларускі дом друку» нанёс пяць удараў нажом у грудзі сваёй 33-гадовай жонцы, якая збірала рэчы, каб сысці да іншага мужчыны. Затым ён забіў сябе, стрэліўшы ў галаву з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы 16-га калібру.

У сямейнай пары засталося дзіця. У момант трагедыі яно знаходзілася ў бабулі.

**БелаПАН**

## Сцісла

**У Мінску затрыманы серыйны кватэрны злодзей**

25-гадовага жыхара Талачына падазраюць у серыі кватэрных крадзяжоў. Паводле міліцыянтаў, ён дзейнічаў па простай схеме: у пад'ездах заходзіў у незамкнёныя кватэры і ўчыняў крадзяжы. Часта пры гэтым гаспадары былі дома. Затрыманы раней быў неаднаразова судзімы за аналагічныя злачынствы.

**Хацеў разняць, а ў выніку задушыў**

У брэсцкім кафэ пабіліся наведнікі. Малады чалавек паспрабаваў іх разняць, схапіў аднаго за шыю і пачаў адцягваць. І выпадкова задушыў. Папярэдняя прычына смерці 33-гадовага жыхара Брэсцкага раёна — асфіксія. На 20-гадовага берасцейца завялі крымінальную справу за ненаўмыснае забойства.

**Узброіўся пісталетам і скраў яблык**

4 снежня 25-гадовы жыхар пасёлка Энергетык (Дзяржынскі раён) прыйшоў у прадуктовы кіёск. Пагразіўшы прадавачцы прадметам, падобным да пісталета, скраў яблык. Тая заявіла ў міліцыю. Рабаўніка затрымалі. Аказалася, што на «справу» ён выбраўся з пнеўматычным пісталетам.

**«Замініраваў» РУУС**

Нецвярозы 42-гадовы мінчук патэлефанаваў у Ленінскае РУУС і паведаміў пра закладзеную там выбухоўку. Выкліканыя па трывозе сапёры ягоных словы не пацвердзілі. Аднак жартаўніка гэта не ўратуе: на яго завялі крымінальную справу.

**СП**

# Матафонаў сышоў з БТ на свабоду

**Стваральнік культавых гістарычных перадач быў вымушаны зволніцца з дзяржаўнага тэлебачання.**

Цягам дзесяці гадоў Матафонаў «цягнуў» самыя беларускацэнтрычныя праекты на дзяржтэлевізіі. Ён стварыў такія перадачы, як «Скарбніца Міншчыны», «Адкрыты архіў», «Цені і словы», «Лабірынты», «Біяграфія слова», «Алхімія слова», «Маем рэчы»... Разам з Юрыем Жыгамонтам Матафонаў папулярызаваў гісторыю, за што яго і любілі гледачы.

Цяпер Матафонаў збіраецца супрацоўнічаць з радыё «Свабода».

**Наша Ніва: Як так сталася, што Вы перамянілі працу?**

**Алесь Матафонаў:** Так скаліся абставіны, што я быў вымушаны сысці, магчыма, пасля я пра гэта апавяду, аднак цяпер не гатовы. Скажу, што я сышоў без крыўдаў, але не па сваёй волі.

**НН: Якія планы маеце на новым працоўным месцы?**

**АМ:** Я хачу засяродзіцца на творчасці. Я, магчыма, буду відэарэдактарам, працаваць для сайта з відэа, якое дашлюць іншыя супрацоўнікі, а таксама буду ствараць пэўныя сюжэты і працаваць як аператар і мантажор.

**НН: Ці не думалі Вы перанесці на сайт «Свабоды» які-небудзь са сваіх праектаў па гісторыі?**

**АМ:** Я хачу адысці ад публіцыстыкі і заняцца аўтарскім кіно, дакументальным, папрацаваць з тэмамі, якія мяне хвалююць.

**НН: І якія гэта тэмы?**

**АМ:** Гэта будзе кіно пра тое, што нас хвалюе, пра нашыя радасці і слабасці, гэта будзе адначасова кіно радаснае і сумнае. Не палітычнае, але сучаснае — цяпер мне цікавей працаваць з сучаснасцю, а не з гісторыяй.

**Юрась Ускоў**



# Алексіевіч атрымала самую прэстыжную цэнтральнаеўрапейскую прэмію

**«Беларуская літаратура стала для нас адкрыццём года», — сказаў прадстаўнік журы.**

Разам з кнігай «У вайны не жаночае аблічча» ў шорт-лісце прэтэндэнтаў на прэмію была і адна з кніг «Кнігарні «Наша Ніва» — «Рыбін горад» Наталкі Бабінай, а таксама творы ўкраінкі Марыі Маціос, немкі Джэні Эрпенбек, албанца Ісмаіла Кадарэ, славенца Драга Янчара.

«Ангелус» — самая прэстыжная літаратурная прэмія для цэнтральнаеўрапейскіх аўтараў.

Афіцыйна яна тлумачыцца як «прэмія за найлепшую кнігу прозы, апублікаваную ў Польшчы ў мінулым годзе». Усяго на яе сёлета былі вылучаныя 52 творы. Сем з іх трапіла ў шорт-ліст. Іх аўтары сабраліся ва Уроцлаве на цырымоніі, на якой і даведаліся імя лаўрэата.



«Беларуская літаратура стала для нас адкрыццём года», — сказаў перад уручэннем прэміі прадстаўнік журы.

«Усе мы выйшлі з аднаго вар'яцтва, — працытавала ў сваім слове Алексіевіч і патлумачыла. — І гэтае вар'яцтва называецца сацыялізмам».

Раней беларусы яшчэ ніколі не атрымлівалі «Ангелуса».

Сярод мінулых лаўрэатаў прэміі былі Петэр Эштэргазі (Венгрыя), Юрый Андруховіч (Украіна). У грашовым выражэнні прэмія складае 35 тысяч еўра.

«У вайны не жаночае аблічча» — гэта кніга Алексіевіч, напісаная ў 1985-м, якая прынесла ёй першую славу. Польскі пераклад кнігі «Wojna nie ma w sobie nic z kobiety» з'явіўся ў 2010-м у выдавецтве «Czarne». Твор пераклаў Ежы Чэх.

Далучаемся да віншаванняў Святлане Алексіевіч, талент якой здабыў сусветнае прызнанне.

Як выдаўцы цешымся і за раман Бабінай, што знайшоў чытача не толькі беларускамоўнага, але і за Бугам.

**Сяргей Гезгала**

Раман Наталкі Бабінай знойдзеце ў кнігароў у новым выданні серыі «Кнігарні «Наша Ніва».

**Тэндэнцыя**

## Паводле вынікаў сацыялагічнага даследавання, праведзенага «Новакам», каля 70% жыхароў нашай краіны гатовыя камунікаваць і ўспрымаць інфармацыю на беларускай мове, а больш за 37% лічаць, што беларускай мовы пераважна не хапае ў сферы рэкламы.

«Беларускія навіны»



# «Еўрабачанне»: Беларусь галасавала за Грузію

13-гадовая Лідзія Заблоцкая (**на фота**) з песняй «Анёлы дабра» заняла трэцяе месца на дзіцячым «Еўрабачанні» ў Ерэване. Яна набрала 99 балаў, саступіўшы грузінскаму ансамблю Candy і нідэрландскай спявачцы Рэйчэл.

Супрацьстаяць грузінскаму дзявочаму ансамблю Candy магіляўчанка Лідзія не змагла. Дыска-нумар, падрыхтаваны квінтэтам з Тбілісі, быў вельмі прафесійным.

Адно з самых цікавых пытанняў «Еўрабачання» — якая краіна колькі балаў нам дасць? Беларусь атрымала па 12 балаў ад Расіі, Малдовы і Украіны. Беларусы ж максімальны бал аддалі Грузіі, а Расія і Украіна атрымалі 7 і 2 балы адпаведна.

**ЮУ**

## Сціслa

### Курэйчык паказаў трэйлер серыяла «Вышэй за неба»

1 снежня, у Сусветны дзень барацьбы са СНІДам, быў прэзентаваны трэйлер 8-серыйнага кіно пра мінскую моладзь. У серыяле — гісторыя жыцця і кахання студэнта Мікіты Міцкевіча. Аўтарам сцэнарыя выступіў драматург Андрэй Курэйчык, аўтар папулярных у расійскім кінапракаце фільмаў. У фільме гучаць беларуская і расійская мовы. Паводле словаў аўтараў, такі прыём «упершыню выкарыстаны» ў серыяле, каб максімальна наблізіць фільм да беларускіх рэалій. Прэм'ера мае адбыцца 14 лютага 2012.






### Будынак Гістарычнага музея зойме Следчы камітэт?

Ад моманту з'яўлення інфармацыі пра тое, што ў краіне ўтвараецца новая сілавая структура — Следчы камітэт, — не было звестак, дзе ён размесціцца. Чытачы паведамілі НН, што новаўтворанаму камітэту перадаюць будынак на вуліцы Фрунзе, 9, у які мусіў пасля рэканструкцыі засяліцца Нацыянальны гістарычны музей.

«Афіцыйных папер мы на гэты конт пакуль не атрымлівалі», — кажа намесніца дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Ніна Калымага. Аднак у прыватных гутарках і ніжэйшыя рангам супрацоўнікі музея, і супрацоўнікі Міністэрства культуры казалі, што такая пагалоска ідзе.

«Я не ўпаўнаважаны даваць вам такія звесткі», — адказаў НН начальнік Аддзела капітальнага будаўніцтва Міністэрства культуры Міхаіл Мацко. «Музей застаецца на месцы», — акцэнтавала іншая адказная супрацоўніца. І таксама адзначыла, што афіцыйнай паперы наконт перадачы будынка пакуль няма.

**СМ**

**Гісторыя**

# Як расстрэльвалі невінаватых

**У найноўшай гісторыі Беларусі ўжо быў выбух «з мэтай дэстабілізацыі абстаноўкі».**

Маніякальны недавер да высноваў следства па справе Канавалава і Кавалёва тлумачыцца не толькі стаўленнем да палітычнай сістэмы, але і памяццю пра нядаўнюю гісторыю. Людзям яшчэ помная гучная «Віцебская справа». Як і ў гісторыі серыйнага забойцы Міхасевіча, ёсць рызыка пакараць смерцю невінаватых, кажуць яны.

### У справе Міхасевіча быў свой Кавалёў

Серыйны забойца Генадзь Міхасевіч за 14 гадоў забіў 36 жанчын. За яго грахі расплачваліся іншыя: прайшло 11 працэсаў, было асуджана 14 чалавек, аднаго з іх расстралялі, адзін аслеп у турме, адзін спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, адзін адседзеў 10 гадоў.

Дарэчы, аднаго з першых пакараных па справе віцебскага душыцеля звалі Кавалёў. Ён з кампаніяй сяброў выпадкова трапіў на месца, дзе знайшлі ахвяру Міхасевіча. Усіх трох асудзілі.



Забойца Міхасевіч хаваўся 14 гадоў.

Што дазволіла Міхасевічу так доўга заставацца беспакараным? Бо следчыя не імкнуліся разабрацца, а спяшаліся вырваць прызнанне. Высокае начальства прыспешвала.

Калі Міхасевіча схапілі, за перагібы былі пакараныя і некаторыя следчыя. Адзін з іх, Валерый Сарока, упёк за краты кіроўцу Алега Адамава, падкінуўшы яму фота адной з ахвяр. Адамаў спрабаваў забіць сябе ў турме.

Следчы ж, адседзеўшы за перавышэнне паўнамоцтваў, напісаў пра віцебскую справу кнігу.

Арыштавалі Міхасевіча ў 1985-м. Праз тры гады яго расстралялі.

### «Для дэстабілізацыі становішча ў вобласці»

Можна яшчэ згадаць забойства Яўгена Мікалуцкага, старшыні Магілёўскага абласнога дзяржкантролю. Чыноўнік загінуў ва ўласным пад'ездзе падчас выбуху 6 кастрычніка 1997. З тагачасных публікацый працэс паўстае не менш заблытаным, чым справа тэракта ў метро.

Абвінавачаных было чацвёра. Адзін з іх, былы маёр КДБ Валерый Ткачоў, загінуў у следчым ізалятары. Афіцыйная версія — самагубства. Аднак былі сумневы: былы камітэтчык меў сярод абласных сілавікоў і чыноўнікаў нямала ворагаў. Пасля яго смерці роля лідара «банды Ткачова» выпала на долю Віктара Янчэўскага, звычайнага рабочага. Яны нават не былі добра знаёмыя з Ткачовым.

Абвінавачанне грунтавалася на сведчаннях Анатоля Гаўрылава, які сябраваў з сынам Ткачова і ведаў Янчэўскага. У часе следства ён расказваў пра «падрыхтоўку» да забойства Мікалуцкага і магчымы замах на Лукашэнку. Але на судзе адмовіўся ад паказанняў, заявіўшы, што сведчыў пад ціскам.

У абвінаваўчым заключэнні гаварылася, што забойства Мікалуцкага хацелі выкарыстаць для «дэстабілізацыі абстаноўкі ў Магілёўскай вобласці». Проста цытата з працэсу Канавалава.

Прысуд па справе Мікалуцкага быў вынесены ў чэрвені 1999-га. Янчэўскі атрымаў 11 гадоў турмы, Гаўрылаў — 5, Радзікоўскі — 4. Як чарнобылец ён трапіў пад амністыю і быў вызвалены ў зале суда.

**Сямён Печанко**

# За ці супраць смяротнага пакарання?

**Апытанне НН на вуліцах Мінска.**



Гледзячы за што. Калі за тэракт, то за. Такіх людзей трэба караць.



За такую колькасць загінулых нельга людзей пакідаць жывымі.

За смерць трэба плаціць смерцю.



Смяротная кара — лёгкая смерць. Лепш хай ён працуе ўсё жыццё на шкодным прадпрыемстве, на хімзаводзе, напрыклад.



Калі ёсць хоць працэнт, што нешта не вяжацца, лепей пачакаць.



Па справе Канавалава—Кавалёва з адным дакладна можна было «разабрацца». А другога, які яму дапамагаў, можна было б пасадзіць на ўсё жыццё, хай мучыцца. І яшчэ я думаю: а раптам яны выконвалі проста чыюсьці волю? Калі яны б сядзелі ў турме ўсё жыццё, дык можа, за гэты час высветліліся б сапраўдныя падлюкі.



У Беларусі ўжо быў сумны вопыт судовых памылак у такіх справах. Па справе тэракту я глядзеў матэрыялы, і ў мяне засталіся пытанні.



Прычым той Кавалёў, за што атрымаў? За недаянесенне? Калі б да вас прыехала сяброўка, вы што, абшуквалі б яе рэчы? Ці пабеглі на яе даносіць?



Нават у справе Канавалава я супраць смяротнай кары. У прынцыпе, не давяраю гэтай усёй справе.



Мы не маем права распараджацца іх жыццём.

**Запісала Настасся Шамрэй**

# Беларуская глыбіня. **Віскулі**

Піша **Павел Севярынец**

*Ісус спытаўся яго:*
*як тваё імя?*
*Той сказаў: «Легіён»,*
*бо шмат дэманаў*
*увайшло ў яго.*
***Лукі 8:30***

Друзлы ўсходні чалавек з чорнымі вачыма купляе ў нас на складзе ў Купліне жалеззе.

— Герой, — ціхенька піхае мяне локцем галоўны інжынер Максімавіч, — ваяваў у Прыбалтыцы, Югаславіі, Чачні...

— Што, праўда? — пытаюся.

— Ну.

— Як у французскім «Замежным легіёне»?

— Легіёне? Ну так, як у легіёне.

— І людзей забівалі?

— А як і ўсе.

— І цяпер пайшлі б?

— Канечне.

— А чаму?

— Я прысягу даваў.

— Каму, Савецкаму Саюзу? Дык Савецкага Саюза ўжо няма.

Друзлы ўсходні чалавек ускідвае на мяне чорныя вочы і бахае ва ўпор:

— А што, лепш каб туды Амерыка ўлезла?!

Разваліўся, рассыпаўся СССР, а яго асколкамі, вінцікамі і цэлымі механізмамі, быццам запчасткамі нейкага гіганцкага кібаргатрансформера, Беларусь дагэтуль проста кішыць.

Савецкі Саюз знік роўна 20 гадоў таму. Тады назва маленькай вёсачкі Віскулі ў Пружанскім раёне, у глыбі Белавежскай Пушчы, з нясцерпным віскам успарола ўвесь свет. Тое, што не ўдалося ніводнаму магутнаму ворагу савецкай імперыі, раптам адбылося ў Беларусі.

Калі чуеш «Віскулі», увушшу — рэзкае вясковае рэха: дзень, калі б'юць кабана. Ён крычыць, раве знадрыўна, аж душу выварочвае — і свінні па ўсёй вёсцы пачынаюць масавы суладны віск. Пералівісты, шматгорлы, дзікі, у гулкім марозным паветры асабліва жудасны. *Віскулі* на ўсё наваколле. Як у Евангеллі, калі Ісус выгнаў легіён бесаў з вар'ята ў гурт свіней, і тыя ашалелі, «і кінуўся гурт з урвішча ў мора, і патануў».

Днямі праз Пушчу пусцілі новую дарогу — Брэст—Гродна. Прыгажосць. Краявіды. Падземныя пераходы ў месцах міграцый жывёлаў. Турыстычныя знакі. Ціха, ураччыста. І нікто не вішчыць.

Пушча, заўсёднае, з часоў Вітаўта, логвішча загнаных беларусаў — змоўшчыкаў, канфедэратаў, паўстанцаў, партызанаў, сховішча Урублеўскага, Харэўскага, Рагулі, Урбановіча; радзіма Нямцэвіча, Карпінскага, Крашэўскага, Панятоўскага... Месца грандыёзнага забою зуброў і ласёў для Вялікай вайны перад Грунвальдам; паляўнічы рай Жыгімонта Аўгуста, Мікіты Хрушчова, Леаніда Брэжнева; зямля, зрытая на невымерную глыбіню сакрэтнымі бункерамі і ракетнымі шахтамі.

Толькі ў глыбокіх беларускіх лясах ды балотах магчыма было ўтапіць такую агр654раду зла.

Памятаю: мне чатырнаццаць, за акном бела-бела, светла-светла ад снегу, свежасвежа, і навіна: СССР больш няма. *Беларусь.*

Маленькі, утульненькі паляўнічы дамок. Крыштальныя кілішкі. Светлы, свежы бел-чырвона-белы сцяжок. Упалявалі-такі звера!

Векавечны напеў, далячыняў смуга
У чаканні зары, што заблішча
сляпушча…
Як свая мне твая векая туга,
Белавежская пушча,
Белавежская пушча!

А такое ж харство, асабліва ў снежні!

Ох, як сёння хочацца ім, чыё імя легіён, каб ані Белавежскай пушчы, ані таго снежаньскага дня не было ніколі! Саюзная дзяржава... Мытны саюз... Еўразійская эканамічная прастора... Еўразійскі саюз... І агукаецца: Віскулі, Віскулі, Віскулі!

Зноў імперыя? Ласкава запрашаем у Белавежскую пушчу.

З часоў Вавілонскай вежы чалавецтва будуе каласальныя імперыі, а Госпад іх разбурае. Светла, ціха і лёгка. СССР, найвялікшая ў гісторыі бязбожная імперыя, была разбураная ў Беларусі гэтак жа, як і калісьці Егіпецкая, Асірыйская ці Рымская: надыходзіць час, і з подыхам духу спаруды людской пыхі рассыпаюцца ў прах.

Чалавечая веліч вечна пнецца адгарадзіцца ад свабоды, любові і праўды бетоннымі сценамі, бункерамі, грудамі зброі і горамі трупаў. Але на зямлі ёсць месца, дзе ў туманнай смузе, цудам, быццам прывіды, знікаюць цені і сцэны, змрок і страх, лютасць і самае зло — і, як тады, у Гадарынскай краіне на беразе Галілейскага мора, людзі раптам спыняюцца перад пранізлівым адчуваннем: тут Бог.

*Куплін*



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**Калі чуеш «Віскулі», увушшу — рэзкае вясковае рэха: дзень, калі б'юць кабана**

# Цені Гуку: класіка нямецкага кіно

12—14 снежня праект Cinemascope прадстаўляе ў мінскім кінатэатры «Перамога» праграму «Цені Гуку». Беларускія гледачы змогуць пабачыць класіку нямецкага гукавога кінематографа. Паказ ажыццяўляецца пры падтрымцы Пасольства Германіі ў Рэспубліцы Беларусь.

У рамках праграмы будуць паказаныя тры фільмы, знятыя ў перыяд ранняга гукавога кіно: «М: горад шукае забойцу» (1931) Фрыца Ланга, «Трохграшовая опера» (1931) Георга Вільгельма Пабста і «Вампір: сон Алана Грэя» (1932) Карла Тэадора Дрэера.

Не адмаўляючыся яшчэ ад выразных прыёмаў, характэрных для нямога кіно (у прыватнасці, кіно нямецкага экспрэсіянізму), гэтыя фільмы разам з тым дэманструюць творчыя пошукі ў галіне кінамовы і зацвярджаюць гук у якасці элемента новай эстэтыкі.




12 снежня

## М: горад шукае забойцу

M — Eine Stadt sucht einen Mörder
**Рэжысёр:** Фрыц Ланг
**Сцэнар:** Тэа фон Харбау, Фрыц Ланг па матывах артыкула Эгана Якабсана
**Аператар:** Фрыц Арна Вагнер
**У ролях:** Петэр Лоры, Ота Вернікe, Густаў Грундгенс, Элен Відман
Германія, 1931, 110 хв.

Загадкавы забойца, які пазбавіў жыцця ўжо сем маленькіх дзяўчынак, задае страху жыхарам Берліна. Эльзі Бекман, якую забойца застае за гульнёй у мяч, становіцца восьмай ахвярай. Паліцыя ладзіць новыя ператрусы, следчыя эксперыменты, допыты — але вынікаў няма. Між тым штодзённыя аблавы шкодзяць злачыннаму свету. Кіраўнікі розных злачынных сіндыкатаў аб'ядноўваюцца і вырашаюць узяць справу ў свае рукі...

Першы гукавы фільм Фрыца Ланга з'яўляецца таксама адным з галоўных у яго творчасці, абсалютным мадулем рэжысуры, якая разглядаецца як прывядзенне ўсіх складнікаў карціны да адзінага паказальніка стылю. Смерць дзяўчынкі, паліцэйскае расследаванне, паляванне на злачынцу, яго нікчэмныя прызнанні — усё нібы разглядаецца пад лупай і бязлітасна рассякаецца скальпелем. Гук стварае ў прасторы фільма дадатковы, вельмі трывожны эфект адсутнасці і пустэчы.

13 снежня

## Трохграшовая опера

Die Dreigroschenoper
Рэжысёр: Георг Вільгельм Пабст
Сцэнар: Леа Ланія, Бэла Балаш, Ладыслаус Вайда па аднайменнай п'есе Бертальда Брэхта
Аператар: Фрыц Арна Вагнер
Музыка: Курт Вайль
У ролях: Рудальф Форстэр, Карола Неер, Валеска Герт, Райнхальд Шунцэль, Фрыц Расп
Германія, 1931, 110 хв.

Лондан у нявызначаную эпоху. Вулічны спявак распавядае разявакам пра подзвігі Мэкі, бандыта і круцяля, які непадзельна пануе ў Соха. Пакінуўшы сваю сяброўку Джэні-шлюху, ён спакушае Полі Пічэм, дачку караля жабракоў, і жэніцца з ёй ноччу ў закінутым доку на беразе Тэмзы. Раз'юшаны Пічэм загадвае злавіць Мэкі і адпраўляе на яго пошукі цэлую армію абадранцаў...

Гэты фільм, зняты ў двух варыянтах, нямецкім і французскім (з адной і той жа групай, але рознымі акцёрамі), бліскуча спалучае англійскі гумар з нямецкім экспрэсіянізмам. Нягледзячы на тое, што праца Пабста выклікала абурэнне Брэхта і Курта Вайля, яна эстэтычна цэльная. Дэкарацыі і аператарская праца ствараюць чароўную атмасферу замкнёнага асяродка, а музыка здрадліва каментуе дзеянне фільма. Ні адна з наступных карцін Пабста не дасягнула падобнай паэтычнасці.





14 снежня

## Вампір: сон Алана Грэя

Vampyr — Der Traum des Allan Grey
**Рэжысёр:** Карл Тэадор Дрэер
**Сцэнар:** Крысцін Джулі, Карл Тэадор Дрэер па матывах кнігі Джозэфа Шэрыдана Ле Фаню «Праз цьмянае шкло»
**Аператары:** Рудальф Матэ, Луі Не
**Музыка:** Вольфганг Цэлер
**У ролях:** Джулян Уэст, Морыс Шуц, Рэна Мэндзел, Сібіла Шміц
Германія, 1932, 73 хв.

Малады падарожнік Алан Грэй спыняецца ў гатэлі, які стаіць наводшыбе. Неўзабаве да яго заходзіць мужчына і пакідае пакет з надпісам: «Распакаваць пасля маёй смерці». Той жа ноччу Алан выходзіць з нумара і спачатку бачыць цені, якія шпацыруюць і танчаць без сваіх гаспадароў, а прыйшоўшы ў замак, размешчаны па суседстве, — як забіваюць яго нядаўняга наведніка, які аказваецца гаспадаром замка...

Дрэер напаўняе свой аповед атмасферай жаху, пераплятаючы сон і яву. Патрэбны эфект дасягаецца простымі сродкамі — зменай ракурсаў, асіметрычнай кампазіцыяй кадраў, драматычным асвятленнем, выявай, нібы затуманенай смугой, шумамі, стрыманымі жэстамі і мімікай акцёраў. Сам вампір узнікае ў апавяданні толькі эпізадычна. Няяснасць, двухсэнсоўнасць таго, што адбываецца, падкрэслівае і прозвішча галоўнага героя — Грэй.

Усе фільмы дэманструюцца на мове арыгінала з субтытрамі.



## Пачатак усіх сеансаў у 19.00.

**Кінатэатр «Перамога» (Інтэрнацыянальная, 20). Даведкі па т.: (17) 203-77-66**

Публікуецца на замову Пасольства Германіі ў Рэспубліцы Беларусь.

# Святочная Ялінка для беларускіх сем'яў



«Нашыя дзеткі» восьмы год запар ладзяць святочную Ялінку для беларускіх сем'яў. Сёлета адбудзецца аж дзве імпрэзы.

**Першая Ялінка — 17 снежня ў кавярні «Планета зорак»**, што ў Палацы моладзі на **Старавіленскім тракце, 41**. **Пачатак у 10.30.** Вялікіх і маленькіх гасцей чакае святочная праграма, навагоднія гульні і конкурсы, падарункі і пачастункі. Дзеткі з розных школ і гімназіяў пазнаёмяцца і пагуляюць разам.

Запісацца, прапанаваць дапамогу вы можаце па **тэл.: (029) 632-27-43 (Крысціна), skype: Kryscina, e-mail: n.dzietki@yahoo.com.**

**Другая імпрэза** адрасаваная зусім маленькім: немаўлятам, дашкалятам. Ялiначка адбудзецца **24 снежня ў кавярні THE LOFT (Петруся Броўкі, 22)**. **Пачатак у 11.30.** «Нашыя дзеткі» і Bazart запрашаюць вас і вашую малечу за салодкі стол з Дзедам Марозам, поўзанне па дыванках.

Запісацца можна **па тэл.: (029) 911-78-87, (029) 784-63-13 (Наста), skype: Bazart_by, e-mail: Bazart@tut.by.**

## ІМПРЭЗЫ

### Central Fashion Market

**11 снежня ў кавярні Loft (П.Броўкі, 22) а 12-й** пачнецца маркет дызайнерскай вопраткі і аксесуараў — Central Fashion Market. Больш за 50 дызайнераў прадставяць свае калядныя калекцыі жаночай, мужчынскай і дзіцячай вопраткі і аксесуараў.

### «Выявы-2011: трохмоўе»

**7 снежня ў Музеі Янкі Купалы (вул. Я. Купалы, 4)** адбудзецца мульцікультурны праект «ВЫЯВЫ-2011: ТРОХМОЎЕ» (Пераклады), прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча і 100-годдзя з дня нараджэння Чэслава Мілаша. **Пачатак а 18-й.**

### Да 120-годдзя Максіма Багдановіча

**9 снежня а 12-й гадзіне** адбудзецца ўрачыстая імпрэза і ўскладанне кветак да помніка М.Багдановічу (Мінск, сквер каля тэатра оперы і балета).

### Сярэднявечны баль

**10 снежня а 18-й у Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** тэатр старадаўняй культуры «Яварына» запрашае Вас на баль у гонар Сафіі Гальшанскай. У балі бяруць удзел «Тутэйшыя», «Гістрыён», Gloria, «Ордэн Храма» і «Яварына». Для тых, хто будзе ў сярэднявечным строі (13—15 стагоддзі), будзе прадстаўлена магчымасць пабываць на майстар-класе па класічных і сярэднявечных танцах тэатра сярэднявечнай культуры «Яварына».

### Свет скуры і футра

**У выставачным павільёне НВЦ «БелЭкспа» (Янкі Купалы, 27)** з 8 да 10 снежня працуе выстава-кірмаш «Свет скуры і футра», сфармаваная з зімовых калекцыяў новага сезона.

### Калядны дабрачынны кірмаш

**9 снежня ў Палацы моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** адбудзецца Калядны дабрачынны кірмаш, на якім будуць прадстаўленыя сувеніры, кнігі, карціны, нацыянальныя слодычы… **Пачатак а 10-й.**

## КАНЦЭРТЫ

### Апокрыф

**9 снежня а 19-й у Вялікай зале філармоніі** — прэм'ера мюзіклапрытчы «Апокрыф» кампазітара Л.Сімаковіч, як знак пашаны моцнаму перакананню М.Багдановіча.

### Apple Tea

**7 снежня а 19-й у Малой зале КЗ «Мінск»** — Apple Tea.

### Воплі Відаплясава

**14 снежня а 19-й у Палацы Рэспублікі** «Воплі Відаплясава» са спецыяльнай праграмай «Дзень нараджэння».



### Памяці рок-княжны

8 снежня а 20-й у Loft cafe (П.Броўкі, 22) — дабрачынны канцэрт памяці Вольгі Самусік (рок-спявачкі і журналісткі, рок-княжны 2007). Бяруць удзел Tarpach, ZM99, Pomidor/OFF, IQ48…

## ВЫСТАВЫ

### Заплакалі струны жывыя

**З 7 снежня да 8 студзеня ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Заплакалі струны жывыя», на якой прадстаўленыя музычныя інструменты — вырабы сяброў Беларуска саюза майстроў народнай творчасці.

### Рукатворы

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** да 10 снежня працуе выстава беларускага каліграфа Генадзя Мацура «Рукатворы».

Усе «Рукатворы» ідуць «ад рукі», хоць і з дапамогай розных прыладаў, ад традыцыйных пяра, пэндзаля і паперы да камп'ютарнай графікі. Але ў кожнай працы рукатворная аснова.

### Creative Fields

**Да 14 снежня ў Нацыянальнай школе прыгажосці (Мельнікайтэ, 4)** адбудзецца выстава Creative Fields. Прастора школы стане арэнай камунікацыі для сучаснай фатаграфіі і аўдыёвізуальнага live перформансу, моды і эксперыментальнага дызайну.

### Горад унутры

**Да 10 снежня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе фотапраект Вольгі Бубіч «Горад унутры», прысвечаны Мінску і яго жыхарам. У работах Вольгі Бубіч Мінск паказаны не зусім такім, якім яго малююць на паштоўках. Горад тут можна ўбачыць вачыма сучаснай моладзі, якая актыўна ўзаемадзейнічае з прасторай сталіцы: кідае выклік і марыць, дасягае і губляе, атрымлівае асалоду ад цішыні паркаў ці акунаецца ў шум плошчаў.

### Зачараванне графікай

**У Мастацкім музеі да 20 снежня** працуе выстава твораў Паўла Любамудрава (1916—1984) і Леаніда Марчанкі (1941—1996) «Зачараванне графікай».

### Я не самотны…

**Да 23 снежня ў Палацы мастацтва** працуе выстава «Я не самотны…», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У выставе возьмуць удзел больш за сотню беларускіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

### Мінск Барыса Аракчэева

**У Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10) да 10 снежня** працуе выстава твораў Барыса Аракчэева — летапіс роднага горада мастака, які ён піша ўсё сваё жыццё. Вобраз Прасвятой Багародзіцы ў беларускім іканапісе XVII–XVIII стст.

### Kodex

**Да 10 снежня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава Kodex, на якой дэманструюцца некаторыя аспекты развіцця сучаснага мастацтва ў краіне.

Беларускія мастакі актыўна інтэгруюць замежныя навацыі ў свае творчыя стратэгіі. За апошнія дзесяць гадоў значна пашырыўся жанрававідавы спектр мастацтва. Фотамастацтва, арт-дызайн, мастацтва акцый, камп'ютарная графіка сталі натуральнай часткай мастацкіх працэсаў.

## ТЭАТРЫ

### 7 снежня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 8 снежня

**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 9 снежня

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 10 снежня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»

### 11 снежня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 12 снежня

**Купалаўскі** — «Вечар»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 13 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Сублімацыя любві»

### 14 снежня

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 15 снежня

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Оперы і балета** — «Травіята»

### 16 снежня

**Оперы і балета** — «Аіда»
**Лялек** — «Вянчанне»
**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»
**Купалаўскі** — «Вячора з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 17 снежня

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Планета»

### 18 снежня

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»

## КІНО

### Высоцкі і мудры гэбэшнік

**Высоцкі. Дзякуй, што жывы** (Высоцкий. Спасибо, что живой)
Расія, 2011, каляровы, 128 хв.
**Рэжысёр:** Пётр Буслоў
**Ролі выконваюць:** Аксана Акіньшына, Сяргей Бязрукаў, Андрэй Смалякоў, Іван Ургант
**Жанр:** Біяграфічная драма
**Адзнака:** 4 (з 10)

Лета 1979. Гэбісты прагнуць падлавіць Высоцкага на левых канцэртах. Сам пясняр адпраўляецца гастраляваць ва Узбекістан, нягледзячы на наркатычную ломку. Пачынаецца небяспечная гульня са смерцю. Выканаўцам галоўнай ролі пазначаны нябожчык Уладзімір Высоцкі. Імя акцёра, які рэанімаваў спевака, хаваецца пад слоем грыму. І гэта наўмысны сакрэт стужкі.

Каб падкрэсліць рэальнасць двайніка — пот, сардэчны прыступ. Але маска з'ела акцёрскую душу. Самыя непасрэдныя — перыферыйныя персанажы: закаханая Аксана Акіньшына, мітуслівы Дзмітры Астрахан, і, пад эпоху, — мудры гэбэшнік.

**Андрэй Расінскі**



# «Рабіць інтымны пірсінг часам прыходзяць сямейныя пары»

Гутарка з **майстрам пракалывання цела**.

Праколатым брывом ці пупком сёння наўрад ці каго здзівіш. У пошуках іміджу ды новых адчуванняў маладыя і не вельмі беларусы робяць «тунэлі» ў вушах, прабіваюць пераносье і носяць завушніцы ў... інтымных месцах.

Мінскі пірсер з «Салона 3000», Уладзімір Федарук, займаецца пракалываннем розных частак цела з 15 гадоў (зараз яму 23). У 2007 Уладзімір праславіўся тым, што за 52 хвіліны здолеў утыкнуць у цела сваёй сяброўкі ажно 378 медыцынскіх іголак.

**«Наша Ніва»: Якія віды пірсінгу часцей робяць беларусы?**

**Уладзімір Федарук**: Часцей за ўсё да нас звяртаюцца, каб пракалоць пупок, вушы ці нос. Пупок — гэта звычайны пракол. Праз пару гадоў, відаць, цяжка будзе знайсці дзяўчыну, якая не мае там завушніцы. Тое ж тычыцца і носа. Хто любіць насіць дарагія ювелірныя ўпрыгожванні — гэта дадатковая нагода «начапіць» золата.

**«НН»: Ці носяць упрыгожванне ў пупку падчас цяжарнасці?**

**УФ:** Па-рознаму. Адны здымаюць завушніцу за пару тыдняў да родаў, іншыя — за некалькі месяцаў. Пасля цяжарнасці дзірка можа зарасці. Некаторыя прыходзяць потым перапракалываць.

**«НН»: Якія ёсць супрацьпаказанні для пірсінгу?**

**УФ:** Гэта наяўнасць радзімак, нейкіх скурных ці алергічных рэакцый, экзэмы ў месцы праколу. Калі чалавек знаходзіцца ў стане алкагольнага ці наркатычнага ап'янення, нават на наступны дзень пасля ўжывання такіх рэчываў не рэкамендуецца рабіць пракол. Сасуды пашыраюцца, і будзе шмат крыві. Пры дрэннай згушчальнасці крыві зноў-такі пірсінг непажаданы. Быў выпадак: паставілі звычайны «цвічок». Пайшла кроў. Каб спыніць яе, пайшло некалькі бутэлечак перакісу. Пры экстрэмальных відах (як інтымны пірсінг) мы запытваем, ці ёсць хваробы сэрца.



Пірсінгам языка і пупка ўжо нікога не здзівіць.

**«НН»: Даведка ад урача патрабуецца?**

**УФ:** Не. Усё ж такі чалавек, які вырашыў пракалоць тое ці іншае месца на целе, мусіць сам ведаць пра сваё здароўе.

**«НН»: Што Вы адносіце да экстрэмальных відаў пірсінгу?**

**УФ:** Усё тое, што не класіка. То бок не вуха, нос, пупок, брыво ці вусны. Хоць зноў-такі, і ў вуху можна зрабіць экстрэмальны пракол. Напрыклад, «тунэлі». Альбо пракалоць храсток такім чынам, каб адно ўпрыгожванне праходзіла праз некалькі дзірак.

## «Яшчэ нядаўна гэта было дзівацтвам»

**«НН»: Што такое септум, брыдж і пласкасны пірсінг?**

**УФ: Септум** — гэта пракол пераносся. Мяркую, што папулярным стала дзякуючы вакалісту *Prodigy* Кейту Флінту. **Брыдж** — пракол носавай перагародкі. **Пласкасным** называюць пірсінг на шыі, копчыку, руках. Часам робяць каля лакця, зверху над грудзямі. «Мінус» такіх праколаў — даволі цяжка зажываюць. Больш за 50% зробленых работ не прыжываюцца, нават пры наяўнасці якасных упрыгожванняў з біяпласту ці тытану. Кошт такіх упрыгожванняў — $7—15. Часам людзі шкадуюць грошай на якасныя ўпрыгожванні. Некаторыя віды пірсінгу, як пракол паміж пальцаў (звычайна паміж вялікім і указальным), я называю «пірсінг аднаго дня» — зрабіць і пафоткацца. Гэта надзвычай непрактычна. Рукі — бруднае месца, пірсінг тут зажывае даволі доўга.

**Каштарыс пірсінгу**

Пракол пупка, вуснаў, мочкі вуха, храстка вуха, языка, носа, брыва каштуе ад 86,5 тысячы рублёў. Экстрэмальны пірсінг — ад 200 тысяч.

«Карсет» — яшчэ адзін прыклад пірсінгу аднаго дня для фотасесіі. Робіцца на спіне ў выглядзе некалькіх парных праколаў кольцамі, паміж якімі потым перацягваецца стужка (як быццам вы зашнуроўваеце карсет). Рабіць яго можна, але трэба мець чалавека, які б дапамагаў даглядаць гэту «прыгажосць».

**«НН»: Як даўно ў нас з'явілася мода на «тунэлі» ў вуху?**

**УФ:** Гадоў 8 таму гэта яшчэ было дзівацтвам. Дзіркі ў вушах расцягвалі хто чым: ад зубачыстак да калпачкоў ад ручак.

Першапачаткова лепш зрабіць «тунэль» на 6-8 мм, не болей. Пры большым памеры можа парвацца мочка вуха (калі яна малая). Ёсць такая разнавіднасць завушніц, як плагі (калі не бачна дзіркі). У мяне быў «тунэль» на 1 см. Прахадзіў з ім паўгода, потым недзе за месяц «тунэль» зацягнуўся.

Калі вы вырашылі расцягнуць вуха больш, чым на 13 мм, то вярнуць першапачатковы стан можна будзе толькі хірургічным шляхам. А гэта у некалькі разоў даражэй за сам пракол.

Апроч вушэй, «тунэлі» робяць на вуснах (але рэдка) і на носе.

**«НН»: Па інтымны пірсінг часта звяртаюцца?**

**УФ:** Так, і ў апошні час усё болей. Інтымны пірсінг — гэта пракол саскоў і непасрэдна палавых органаў. Існуе шмат відаў і назваў такіх праколаў. Адзін з самых распаўсюджаных праколаў для жанчын — капюшон клітара. Найбольш вядомы для мужчын — «Прынц Альберт».

**«НН»: Гэта, напэўна, вельмі балюча, ці выкарыстоўваецца анестэзія?**



За «карсетам» трэба пастаянны догляд. Звычайна яго робяць для аднаго здымка.

**УФ:** Мы ўвогуле не робім анестэзію. Пракол менш балючы, чым увядзенне анестэтыка. Так, бывае, што кліенты крычаць падчас працэдуры. Дарэчы, жанчыны трываюць лепш за мужчын. Сам пракол — гэта секунда. Балюча толькі ў гэты момант. Ну і безумоўна, чалавек хвалюецца, паколькі інтымны пірсінг не самы звычайны. Плюс інтымнага пірсінгу — ён адносна добра зажывае. З інтымным пірсінгам праблем меней, чым, напрыклад, з праколатым языком, калі некалькі тыдняў ёсць абмежаванні ў ежы. Аднак калі вы зрабілі пірсінг у інтымным месцы, то 3-4 тыдні варта ўстрымацца ад сэксу.

**«НН»: Ці ўплывае пірсінг саскоў на кармленне грудзьмі?**

**УФ:** Было шмат прыкладаў таго, што з праколатым саском малака выдзяляецца не менш, чым з непраколатым. Пры правільным доглядзе і якасным упрыгожванні ніякіх праблем не ўзнікае.

**«НН»: Хто робіць інтымны пірсінг і для чаго?**

**УФ:** Робяць мужчыны і жанчыны аднолькава. Узрост — ад 18 да 50 гадоў. Прыходзяць і сямейныя пары. Робяць гэта, каб атрымаць новыя адчуванні падчас сэксу. Але калі чалавека першапачаткова не задавальняў увесь працэс сэксу, то наўрад ці трэба чакаць цудаў ад пірсінгу.

**Аксана Рудовіч**

# Медкамісія стане цэнтралізаванай

У Мінску **закрыліся медкамісіі** для кіроўцаў у раённых паліклініках.

З сярэдзіны лістапада ў Мінску больш нельга прайсці спецыялізаваную медыцынскую камісію ў раённых паліклініках. Згодна з рашэннем Мінгарвыканкама, агляд на прыдатнасць да кіравання транспартнымі сродкамі будзе праводзіцца ў 24-й гарадской паліклініцы спецмедаглядаў, якая знаходзіцца па адрасе Філімонава, 51.

Ці выкліча такое рашэнне чэргі з ахвотных атрымаць даведку? «У нас невялікая нагрузка, можна запісацца сёння на заўтра, — кажа загадчыца аддзялення па аглядзе кіроўцаў 24-й паліклінікі Вольга Калечыц. — У канцы года заўсёды нагрузка зніжаецца, але так, як цяпер, у нас ніколі не было. Ахвотных здаваць на правы стала заўважна менш».

Называюцца і іншыя прычыны. Раней чалавек, якому адмаўлялі ў даведцы ў нейкай паліклініцы, мог пайсці ў іншую ўстанову, у якой паспрабаваць даказаць сваё здароўе. І так да бясконцасці. Цяпер спроба будзе, па сутнасці, адна.

**ЯМ**

**Як запісацца ў інтэрнэце на праходжанне медкамісіі?**

www.info.minsk.by/clinics/ Бліжэйшая свабодная дата — праз 10 дзён. Кіроўцы раяць прыходзіць у любы дзень і казаць, што запісваўся менавіта на гэтую дату.

**Кошт праходжання — 47 500 рублёў .**

# У Вене адкрылася школа сэксу

У школьную праграму ўключаныя **пяць асноўных прадметаў** і тры прадметы на выбар.

У Вене адкрылася незвычайная навучальная ўстанова — Міжнародная школа сэксу. Дырэктарка школы Ільва Марыя Томпсан запэўнівае, што яе выпускнікі стануць неперайзыдзенымі палюбоўнікамі.

У школьную праграму ўключаныя пяць асноўных прадметаў і тры прадметы на выбар. У прыватнасці, школьнікі будуць вывучаць асновы гісторыі і тэорыі сучаснай сэксуальнасці, пазіцыі, тэхніку спакушэння і анатомію.

Сама школа знаходзіцца ў асабняку XVIII ст. каля Вены. Іншагароднія жывуць у інтэрнаце, а кантрацэптывы выдаюцца бясплатна. Навучанне ў Міжнароднай школе сэксу пачнецца 9 студзеня, таму яшчэ можна падаць заяўку. Навучанне каштуе €1400.

**Limon.ee**




Беларуска Іна Грабоўская выйграла міжнародны конкурс прыгажосці Miss Yacht Model International 2011, які праходзіў на кітайскай выспе Хайкоў. Усяго ў конкурсе бралі ўдзел 62 удзельніцы. 22-гадовая беларуска стала ўладальніцай прыза ў памеры 10 тысяч даляраў.



PHOTO BYMEDIA.NET

**Новы год хутка.**

**У інтэрнэце прайшоў неафіцыйны конкурс на найлепшы дызайн для купюры ў 1 мільён рублёў. Пераможцамі выйшлі гэтыя варыянты.**









GAZETABY.COM

Самым абаяльным і прывабным беларускім футбалістам названы форвард БАТЭ Віталь Радзівонаў.

## Анекдоты

* **

Раней беларусы хацелі 500 даляраў заробку. Цяпер яны зразумелі, што алібі важнейшае.

***

Перадкалядныя распродажы ў беларускіх супермаркетах: «Нашы цэны сёння на 40% ніжэйшыя, чым будуць заўтра».

* * *

Выклікаюць Рабіновіча ў КДБ і кажуць: «Ну што вы на кожным рагу крычыце, што валюта прапала, рубель абясцэніўся, свабоды няма? Раней мы б вас расстралялі, а цяпер вось праводзім з вамі гутарку — ідзіце адсюль і больш так ніколі не рабіце». Рабіновіч выходзіць на вуліцу і кажа Пінскеру: «Абраша, у іх і патроны скончыліся».

* * *

Толькі жыць пачалі добра - дык грошы скончыліся.

* * *

Адпачынак для некаторых людзей розніцца ад працоўных дзён толькі тым, з якога кампа яны заходзяць у інтэрнэт.

* * *

Жонка даішніка заходзіць раніцай у ванную і бачыць, што на палічцы ляжыць радар.

— Цікава, што мой Коля з фенам на дарозе рабіць будзе?

## «НН» сто гадоў з вамі

**Малыя Бяседы.** Вілейскі павет. З вялікіх даўнейшых бяседскіх лясоў у скорасці астануцца толькі калкі ад сабак бараніцца. З'ядае яго блізкі Прудзянскі тартак. Цяпер пар 50 людзей толькі з пня спушчаюць. Спяшаюцца ўжо купцы... Прыязджаў і ляснічы глянуць на гэтае спусташэнне. Паглядзеў, пацешыўся і паехаў. Адно толькі дзіва: чаму нашаму брату-селяніну і за грошы не дастаць убяседскім лесе сажня дроў? На тое, відаць, панская воля.

**«НН». №49. 1911.**

**Беларускае сеціва ўсё ж існуе.** Агенцтва інтэрнэт-рэкламы mediareklama.com даследуе сацыяльны партрэт беларускага «юзера». Перад Форумам было праведзенае інтэрнэт-апытанне, у якім удзельнічала 3107 карыстальнікаў. Высветлілася, што 73,5% апытаных рэгулярна наведваюць беларускія сайты. З іх 33,1% робяць гэта штодня, і колькасць тых вырасла за апошні год утрая. Значыць, у белнэце ёсць што глядзець.

**«НН». №49. 2001.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7630. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 06.12.2011.
Замова №5836.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614